

«Беларуская песня»

→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Сям'я Казакевічаў →8


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 23 (3291) Год LXIV Беласток, 9 чэрвеня 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Гонар, годнасць і сувязь з Бацькаўшчынай

У момант асвячэння штандару з выявай Яраслава Кастыцэвіча праврваўся цёплы дождж. Госці і вучні, якія ў спеху хаваліся ў школьны будынак, жартавалі ў лакальным стылі:

— *Прыкрапіла як трэба!*

Перад хвілінай пад гукі барабанаў наладзілі шэсце да часоўні, што на школьным пляцы. На чале шэсця апынуліся ганаровыя госці, улады горада, прадстаўнікі класаў у нацыянальных касцюмах. За імі настаўнікі, бацькі, вучні....

У парозе часоўні ўдзельнікаў шэсця прывіталі святары пасхальным *Хрыстос Воскрэсе!* Цягам чарговых хвілін яны адслужылі малебен і шчодра асвяцілі сцяг.

У час хрэсных пасхальных ходаў звычайна асвячаюцца і галовы вернікаў, таму нечаканы дождж прамовіў як дапаўненне традыцыі і добры знак з неба.

— Сёння на нашых вачах здзяйсняецца гісторыя Бельска, — не хавае ўзрушанасці бургамістр Яраслаў Бароўскі.

Мэр горада — выпускнік Падставовай школы № 3 — як ніхто разумее спецыфіку і праблемы беларусаў у Бельску-Падляшскім. Працэс асіміляцыі не абмінуў «тройку», якую ў горадзе па старой завядзёнцы лічаць сваёй, беларускай школай. Шмат вучняў ужо не ўмее вызначыць сваёй нацыянальнасці, не ведае мовы, не цікавіцца гісторыяй.

— З гэтым штандарам нам будзе прасцей, лягчэй, — дадае бургамістр. — З ім моладзь пойдзе ў горад, да іншых людзей. Разам будуць несці сваю адметнасць і заяўляць пра свае ідэалы.

Штандар бельскай «тройкі» не пакідае сумненняў, які характар, ідэалы і місія школы.

Ужо здалёк у вочы кідаецца сардэчны партрэт патрона школы Ярослава Кастыцэвіча.

* * *

Адметнасць штандару прыкмеціла госця свята генконсул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Ала Фёдарава:

— Я ўдзячна вам, што на штандары словы на польскай і беларускай мовах, — сказала спадарыня генконсул. — І шчыра дзякую ўсім, хто захоўвае нашу беларускую мову, родныя беларускія традыцыі, культуру. Заўсёды будзем падтрымліваць вас у гэтай справе, — заявіла яна.

Штандар узнік на сродкі мясцовых прадпрымальнікаў, сімпатыкаў школы, бацькоў, выпускнікоў. Ён звычайны і адначасова незвычайны.

— А хто аўтар праекта? — пытаю ў віцэдырэктар школы Ірыны Яблушэўскай.

— Усе прыдумалі. Праект наш — ад настаўнікаў і сяброў школы, — чую ў адказ. — Мы сустракаліся і гаварылі як мае быць. А сама ідэя, каб прыдбаць такі штандар, выйшла ад дырэктар Іаанны Каліноўскай. Яна прыйшла з іншага асяроддзя до пагляддзела на нас новымі вачыма. І кажа: усе ў горадзе маюць штандары, а дзе наш? Давайце, выправім гэты недахоп.

Калі пра згаданыя словы — тут поўны назоў школы на польскай (залатая нітка) і беларускай мовах (чырвоная нітка). Таксама белы Арол — герб Польшчы, які займае чырвоны бок. На другім — партрэт Ярослава Кастыцэвіча і беларускі арнамент на баках. Здымак патрона незвычайны. На ім Яраслаў Кастыцэвіч у вышыванцы. У адказ на маё здзіўленне спадарыня Яблушэўская паясняе:

— Мы атрымалі ад Дарафея Фіёніка здымак Ярослава Кастыцэвіча ў мундзіры. І тут узнік клопат, бо мундзір наклікае ўсякія здагадкі і непатрэбныя пытанні. Ды вырашылі пераапрануць братоў такім чынам — узялі вышыванку з фатаграфіі брата Ярослава Кастыцэвіча, Ігара.

Апрача вышыванкі здзіўляў імідж патрона. У памяці большчан ён захаваўся як суровы аскет, інтэлігент і гуманіст. На штандары Яраслаў Кастыцэвіч спасірае маладымі, натхнёнымі вачыма.

* * *

У час урачыстага мерапрыемства 23 мая г.г. у спартовай зале школы прагучала шмат дастойных, кранальных, патрыятычных слоў:







— Штандар гэта знак, які павінен весці нас да праўды. Ён забавязвае нас прытрымлівацца маральнай праўды, канстытуцыі і законаў школы. Штандар павінен быць запісаны ў сэрцах вучняў і бацькоў, — гаварыў благачынны Лявонцій Тафілюк, які выступіў з прывітаннем ад бельскага епіскапа Грыгорыя. І дадаў: — Штандар забавязвае шанаваць усё, што нас сустрэне ў жыцці...

Гучныя апладысменты залы атрымаў дырэктар Гайнаўскага белліцэя, радны Падляшскага сейміка Ігар Лукашук. Нагадаў ён, каб тоеснасць вучняў будаваць на аснове каштоўнасцей ад бацькоў і продкаў, на аснове каранёў, з якіх вырастаем.

— Жадаю школе, — гаварыў Ігар Лукашук, — каб новы штандар напамінаў нам усім пра гонар, годнасць і сувязь з Бацькаўшчынай.

У патрыятычным духу выказаўся таксама доктар Васіль Сегень з БГКТ:

— Мы, беларусы, багатыя людзі, бо акрамя таго, што мы верныя грамадзяне Польшчы, маем яшчэ родную мову.

Прыгожым дапаўненнем свята стаў спектакль «Яраслаў Кастыцэвіч» у выкананні моладзі, якая працуе з Іааннай Троц, і гімны ў выкананні школьных хароў. Мерапрыемства было агучанае таксама на польскай і беларускай мовах, а ў ролі канферансье выступілі элегантныя настаўніцы Валянціна Бабулевіч і Анна Вярцінская.

* * *

— Якія ідэалы для сучасных вучняў і вас нясе асоба Ярослава Кастыцэвіча? — пытаем у маладой настаўніцы беларускай мовы доктар філалагічных навук Іаанны Голец, выпускніцы «тройкі».

— У кабінеце № 5 дзяўчаты з сёмага класа зрабілі партрэт Ярослава Кастыцэвіча, ёсць фотаздымкі школы, калі ён быў дырэктарам. Шмат інфармацыі знойдзеце на інтэрнэтнай старонцы школы. Гэтая гісторыя вельмі далёкая для маіх вучняў, аднак яны вельмі ёй зацікавіліся. Яны былі пазітыўна здзіўлены, што іх дзяды вучыліся ў гэтай школе. Сёння няпроста навучаць беларускай мове, паколькі дзеці не чуюць у хаце сваёй мовы. Часта бывае, што бацькі ім кажуць: *Ты ідзі ў школу, там даведаешся і мне падкажаш, як што сказаць па-нашаму.* Такія часы, што дзеці напамінаюць бацькам пра свае карані і мову. Але я ганаруся, што працую ў гэтай школе. Яраслаў Кастыцэвіч працаваў і дзейнічаў у перыядзе, калі панавалі цяжкія ўмовы жыцця. Ён не саромеўся беларускасці. Наадварот, ён заклікаў дзяцей і моладзь, каб вучыліся і шанавалі сваю мову, свае каштоўнасці. Ён быў адукаваны і адначасова такі просты, «свой», з гонарам і вялікай грамадскай адвагай.

— Калі грамадскасць школы абірала Ярослава Кастыцэвіча на свайго патрона, яна спасылалася на яго вялікую грамадскую актыўнасць, яго патрыятызм, адвагу, стойкасць духу, выцыяслівасць, — гаварыла Іаанна Каліноўская. — Такія прыкметы патрэбныя нашай сучаснай моладзі. Chcemy je uczynić treścią naszych edukacyjnych starań.

Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**






# У аўтобусе

Як шмат новага ды цікавага бачыць і чуюць тыя людзі, якія ўвесь час карыстаюцца грамадскім транспартам! Я вось калі ні праедуся гарадскім аўтобусам, то абавязкова нешта напішу пасля. А ёсць жа такія, хто ездзіць аўтобусамі і тралейбусамі штодзённа. А там столькі цікавага, столькі новага, што хоць ты не вылазь з яго.

Не трэба і інтэрнэту. Пакуль праедзеш некалькі прыпынкаў, столькі навін пачуеш, што можаш сам быць крыніцай новых паведамленняў, асабліва калі ля пажылых жанчын прыстроішся. І на што і на колькі цэны падняліся даведаешся, і як Дональд Трамп сцяну будуе на мяжы з Мексікай, і калі выбары будуць, і ўвогуле пра ўсё даведаешся нават чаго ведаць не хочацца.

Я то прызвычаіўся на машыне дабірацца да месца працы. Цяжкавата з маімі нагамі па іншаму. Але дзякуючы яго вялікасці алкаголю, бываю вымушаны займаць месца ў цесным грамадскім транспарце. Бо калі пакаштую з вечара горкай, то наступнага дня за руль ужо не сядаю. Прывучыў сябе так з маладосці, а зараз і самому развучвацца ўжо позна, і іншых гэтаму навучаю.

Вось і нядаўна прыйшлося чарговы раз уціснуцца ў аўтобус айчыннай вытворчасці яшчэ з прыемным смакам у роце ад учарашняга армянскага каньяку, і пляччо ў пляччо з іншымі суайчыннікамі праехацца па родным горадзе пад мілагучныя паведамленні быць асцярожным, бо дзверы зачыняюцца. Народу было поўна, як селядцоў у бляшанцы. Такі час падабраў нязручны. Неабачліва нейк атрымалася, але ўжо нічога не зробіш. Залез, ну то еду.

Асаблівая канцэнтрацыя народу была ля кампосцера, каб, калі кантралёры раптам на прыпынку будуць, паспець пракампасціраваць квіток. Сядзячыя месцы занятыя ўсе да аднаго. І вось на адным прыпынку залазіць у цэнтральныя дзверы даволі аб'ёмная пажылая жанчына і пачынае злосна як з аўтамата Калашнікава страляць вачамі з аднаго боку ў другі. Адразу стала зразумела, што хто-хто, а гэтая абавязкова адваюе для сябе сядзячае месца ў каго-небудзь з больш слабымі нервамі.

Нервы гэтым разам у сядзячых пасажыраў аказаліся даволі моцнымі, таму як ні свідравала іх злосным поглядам аб'ёмная жанчына, ніхто нават не зварухнуўся, і тым больш не згубіў прытомнасці. Першы націск яны выстаялі. І тады жанчына да візуальнай атакі падключыла і шумавы эфект ды стала лямантаваць, што народ у нас не выхаваны і ёй месца саступаць ніхто не спяшаецца.

Пасажыры рабілі выгляд, што ўсё сказанае да іх не мае аніякага дачынення і стойка трымалі асаду. Таму жанчына змяніла тактыку і выбрала цяпер ужо канкрэтную ахвяру. Гэта аказаўся яшчэ малады хлопец, што сядзеў ля акна, прыціснуты да сценкі другім пасажырам.

— Вось гляньце, якая моладзь пайшла не выхаваная, — паказала на яго рукой жанчына. — Сядзіць і саступіць месца старэйшым нават не думае.

— А чаго я мушу вам саступаць сваё месца? — спакойна адказаў хлопец. — Гэта вы вінаватыя, што вам месца не хапае. Бо гэта вы такую ўладу выбралі, якая пра вас не дбае. Я тады яшчэ права голасу не меў, як вы яе выбіралі. Таму вам зараз з хаты ад сораму нельга людзям на вочы паказвацца, а не правы тут качаць. Бо гэта з-за вас не толькі вам месца не хапае, але і нам жыць невыносна.

Што тут пачалося! Які лямант падняла жанчына! Якімі яна толькі словамі не абзывала хлопца! Палівала брудам і яго, і яго продкаў. І іншым прысутным дасталася. Толькі пра ўладу выказалася станоўча. Сказала, што яна ў нас улада самая лепшая.

Хлопец нічога ёй не адказваў. І толькі як прыйшоў час яму выходзіць, ён нахіліўся і падняў мыліцы. І на гэтых мыліцах паціснуўся да дзвярэй. У яго не было нагі. Ды і тая што была, не вельмі яго слухалася. Было бачна па выразе яго твару, што перамяшчэнне ў прасторы выклікае ў яго боль. Але пакрысе ён выйшаў з аўтобуса і абапёрся аб мыліцы, каб крыху адпачыць і набрацца сіл для далейшай хады.

А аб'ёмная жанчына тут жа ўскочыла на яго крэсла і працягвала лямантаваць.

— Каб табе і другую нагу скалечыла, — крычала яна. — Не ведае ён, што старэйшым трэба месца саступаць! На такіх міліцыю выклікаць трэба! Міліцыю!

І як аўтобус рушыў, яна яшчэ праз акно пагрозліва памахала хлопцу кулакамі. Але той стаяў, абапёршыся аб мыліцы і апусціўшы галаву, каб аддыхацца, таму хіба што гэтага ўжо не бачыў.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Дэпрэсія — вылечная!

Тыя, каму марыцца рамантычная войначка, але ўсё ж засталіся ў іх галовах рэшткі практычнага розуму, хай да сэрца возьмуць разлікі Нямецкага інстытута эканамічных даследаванняў пра вайну ва Украіне. Адбываецца яна на мясцовым узроўні, хоць кранае ўсю краіну, у самых багатых раёнах — Данецкай і Луганскай абласцях, якія ўзялі пад свой кантроль у 2014 г. украінскія прарасійскія сепаратысты. Быццам свой б'е свайго, усё ж да крыві. Там адбываецца татальная вайна. Яе канчатковы вобраз гэта руіны і пажарышчы. Страты ў чалавечым вымярэнні — неацэнныя. Як жа змераць смерць, калецтва, страту жылля, псіхічную траўму і выгнанне дзясяткаў тысяч людзей? Адносная аацэнцы можна паддаць толькі матэрыяльныя выдаткі. Па даных нямецкага інстытута толькі за 2017 г. страты ўкраінскай дзяржавы з-за няяўнай вайны з Расіяй складаюць да 50 мільярдаў долараў ЗША і, на жаль, з году ў год павялічваюцца. Нягледзячы на ўзрастаючы ВУП краіны (мінімальны), яе эканамічны баланс надалей адмоўны. Няма грошай на інвестыцыі, на ахову здароўя, на адукацыю, на сацыяльнае забеспячэнне. Украінцы адчуваюць гэта на ўласнай скуры і паволька прыходзяць да высновы, што яны проста не могуць дазволіць сабе гэтую вайну. Але якая краіна можа сабе гэта дазволіць? Я думаю, што толькі самыя вялікія — Расія, ЗША, Кітай, і пры ўмове, што гэта была б перыферыйная вайна, залучаючая невялікую частку яе эканамічнага патэнцыялу. На глабальную вайну нават яны не могуць сабе дазволіць хаця б толькі таму, што сучасны капітал, які пранікнуў іх эканамічна-гаспадарчую фізіялогію, не прыналежыць ужо да пэўных краін, а дакладна — народаў. Ён стаў транснацыянальным, як і глабальным. Гэта не абазначае, аднак, што ён стаіць над міжнароднай палітыкай, інтарэсамі паасобных дзяржаў, урадаў, нацый, грамадстваў. Глабальны капітал не з'яўляецца асобным органам. Гэта частка шматклеткавай сістэмы, якая ахоплівае ўсіх людзей на Зямлі, скамунікаваных адзін з адным аўтаномна супольным сэнсарным пнём, суперажываннямі і эмоцыямі, але і перыферыйнымі культурнымі структурамі, архетыпічнай варожасцю, гістарычнымі прэцэдэнтамі, амбіцыямі эліtaў ці стэрэатыпнымі поглядамі мас. Мы, як чалавецтва, сталі адным арганізмам узаемадзейнічаючых органаў — эканамічных, тэхналагічных, культурных. Глабальная вайна была б для яго актам самагубства, але гэта не значыць, што апусціцца ён у доўгатэрміновую дэпрэсію, крайнюю роспач або страціць пачуццё сэнсу існавання і можа паспрабуе знявечыць сваё існаванне радыкальна і незваротна. А глабальныя сімптомы дэпрэсіі прыкметныя. Ужо больш за 80 працэнтаў маладых амерыканцаў ва ўзросце 25-30 гадоў заяўляе песімізм адносна сваёй уласнай будучыні і будучыні ўсяго жыцця на Зямлі. Яны лічаць, што глабальны кліматычны катаклізм непазбежны. Трэба гэта добра зразумець: узыходзячае пакаленне выказвае ўжо на парозе сваёй грамадскай сталасці, узнаўляльнасці і прадукцыйнасці глыбокую экзістэнцыяльную пасіўнасць! Тое ж самае адбываецца ў Еўропе і нават у развітых краінах Азіі. Тым не менш, гэта не было б прычынай вялікай турботы. Такая апакаліптычная дэпрэсіўная хваля звальвалася на чалавечае грамадства некалькі разоў і заўсёды мела цыклічны характар. Пачынаючы са старажытных часоў, праз еўрапейскае сярэднявечча да сучаснасці, яе кульмінацыя паяўлялася пасля перыяду інтэнсіўнага развіцця цывілізацыі. З часам яна адступала, пакінуўшы ззаду міфалогію гібелі, апакаліпсісу ці дрэнную памяць культурнага рэгрэсу. На гэты раз, аднак, глабальная дэпрэсія, здаецца, глыбейшая. Цэлыя 66 адсоткаў з гэтых жа маладых амерыканцаў, калі спыталі іх аб гэтым, ці адкладваюць на сваё пенсійнае страхаванне, гэта значыць, на сваю не такую далёкую будучыню, адказалі адмоўна. Працуй кажучы, яны пераводзяць жыццё з дня ў дзень, без клопату пра старасць. Мабыць, яны не дажывуць да яе! Той жа працэнт адказаў датычыў пытання аб планаванні сям'і, дзяцей. Ці гэтыя трывожныя вынікі не зварухнуць палітыкаў? Маладыя еўрапейцы таксама баяцца сваёй уласнай будучыні. Адраджаюцца экстрэмальныя сацыяльныя рухі, такія як *Brith Strike*, члены якога свядома адмаўляюцца ад патомства, не хочуць, каб іх дзеці раслі ў свеце, які знаходзіцца на мяжы экалагічнай катастрофы. Краіны, якія вядуць вайну адна з адной, або тэрарыстычныя арганізацыі, або нават урады, якія змагаюцца са сваімі грамадствамі мы павінны пачаць разглядаць як асобеняў у цяжкай дэпрэсіі. Трэба іх лячыць.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Еўрапарламенцкія скокі (2)

У гэтым нумары «Нівы» вернемся яшчэ да вынікаў выбараў у Еўрапарламент. Тыдзень назад, калі трэба было аддаваць газету ў друкарню, дачакаліся мы толькі афіцыйных вынікаў выбараў у маштабе краіны. Цяпер, дзеля гістарычнай статыстыкі, засяродзімся крыху дакладней на нашай акрузе. Акруга нумар тры ахоплівала Вармінска-Мазурскае і Падляшскае ваяводствы. У параўнанні з сярэднестатыстычнай выбарчай яўкай у краіне на ўзроўні 45%, тут была яна на ўзроўні 39%. Але пяць гадоў таму назад выбарчая яўка выглядала наступным чынам — 23,83% Польшча і 19,34% наша акруга. Была гэта адзіная ў Польшчы акруга з выбарчай яўкай ніжэйшай за дваццаць адсоткаў. Тое, што людзі пайшлі на выбары ў гэтым годзе ў амаль у два разы большым маштабе, паказвае і мабілізацыйны патэнцыял стартуючых груповак, але і таксама рост свядомасці грамадства, што трэба рашаць сваім голасам і ў час гэтага спаборніцтва. Дзякуючы такой выбарчай яўцы ўзрастае і важнасць сілы голасу абраных польскіх еўрадэпутатаў. У маштабе краіны і гэтым разам наш рэгіён меў самы ніжэйшы вынік. Але ў параўнанні з папярэднімі выбарамі ўпершыню з гэтай акругі маем мы не двух, як было раней, але трох еўрадэпутатаў. Усе абраннікі — прадстаўнікі Падляшскага ваяводства, а з суседняга ніхто не прабіўся ў Еўрапарламент. У нас выйграла Права і справядлівасць з крыху лепшым вынікам чымсьці ў маштабе Польшчы. ПіС атрымаў 47,3%, Еўрапейская кааліцыя — 36,93%, Вясна — 5,72%. Еўрадэпутатамі ад ПіС сталі Караль Карскі — 184 054 галасы і Кшыштаф Юргель — 104 592, а ад Еўрапейскай кааліцыі — футбаліст Тамаш Франкоўскі, які набраў 125 845 галасоў. Калі тыдзень назад пісаў я пра актыўнасць пасла Юргеля ў нашым ваяводстве і праваслаўна-беларускіх гмінах, то змаганне за кожны голас прывяло яго менавіта да трэцяга мандата. З цікавінак выбарчага змагання варта адзначыць сам вынік галасавання ў Беластоку. Тут Еўрапейская кааліцыя выйграла з ПіСам розніцай ледзьве... сямі галасоў. Атрымалі яны падтрымку 45 508 выбаршчыкаў.

Цяпер крыху глянем на выбарчыя вынікі ў некаторых беларускіх гмінах. Паветам, у якім выйграла Еўрапейская кааліцыя, быў — згодна з чаканнямі — Гайнаўскі павет. Выбарчая яўка на фоне ваяводства была тут ніжэйшай і склала 32,16%. У маштабе павета Еўрапейская кааліцыя перамагла з падтрымкай 48,13%, а ПіС узяў 32,16% галасоў. Але калі прыглядзецца дакладней, то ў грамадска-ідэйным вымярэнні можам нават гаварыць пра сенсацыю, якая мела месца ў гмінах Дубічы-Царкоўныя і Кляшчэлі. У абедзвюх суседскіх гмінах перамагло... Права і справядлівасць. У Кляшчэлях атрымала яно 41,89% галасоў, значыць прагаласавалі за ім 292 выбаршчыкі. Еўрапейскую кааліцыю падтрымала 258 выбаршчыкаў, значыць 37,02%. У Дубічах-Царкоўных ПіС падтрымала 166 чалавек (42,78%), а іхніх канкурэнтаў 143 асобы (36,86%).

Гмінай у Гайнаўскім павеце з найбольшай падтрымкай для Еўрапейскай кааліцыі з'яўляюцца Чыжы — больш за 53%. Аднак у гэтым выпадку трэба адзначаць, што жыхары гміны маюць на сваім уліку і другі рэкорд — самую нізкую выбарчую яўку не толькі ў маштабе павета, але і ваяводства. Склала яна 23,29% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў. Калі звярнуцца да канкрэтных лічб, акажацца, што ў Чыжоўскай гміне права галасаваць мела 1769 чалавек, але выбарчыя бюлетэні ўзяло толькі 412 выбаршчыкаў. Дарэчы, ува ўсіх беларускіх гмінах гэтага павета выбарчая яўка ў большасці не дацягвала да 30%. А з ліку праваслаўна-беларускіх кандыдатаў найбольш галасоў атрымаў Марцін Боўтрык з Гайнаўкі са спіска Еўрапейскай кааліцыі, які набраў амаль 4,5 тысячы галасоў, з чаго ў самой Гайнаўцы 900. Тамаш Ляўчук, лекар з Бельска-Падляшскага з восьмага месца на спіску Вясны ўзяў звыш 2,6 тысячы галасоў. А Севярын Пракапюк з Бельска, з трэцяга месца спіска Левіцы разам атрымаў 1241 голас.

**Яўген ВАПА**

# Захапілі сваім спевам

**У час цэнтральных элімінацый 46-га конкурсу «Беларуская песня», арганізаванага дашкольнікам і вучням пачатковых і гімназічных школ, якія 17 мая прайшлі ў Бельскім доме культуры, выступілі сорак тры выканаўцы, салісты, дуэты, тэрцэты, квартэты, вакальныя калектывы і хары. Дзеткі і моладзь, якія прайшлі адборы падчас раённых элімінацый, выступілі займальна з эстраднымі і народнымі беларускімі песнямі. Узровень спеву быў высокі, а дашкольнікі і вучні цікавым рэпертуарам і ўмелым яго выкананнем захапілі публіку.**

Дашкольнікі і вучні наймалодшых класаў, якія выступілі першымі, запрэзентаваліся са сваімі беларускімі песнямі адважна і шчыра, не скрываючы сваіх эмоцый, а сваім займальным спевам здабылі асаблівую прыхільнасць у публікі. Калі дзеткам цікава спяваць у калектывах і меншых групах у раннім узросце, пасля часта працягваюць гэта рабіць будучы вучнямі старэйшых класаў. Першым удала запрэзентаваўся хор «Лянок» з Непублічнага дзіцячага садка № 1 імя св. дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім, якім апякуюцца Іаанна Хількевіч і Марта Зінкевіч. Адважна заспяваў ён песню «Цік-так ходзікі» і заняў другое месца ў супольнай катэгорыі хароў, якую саставілі дашкольнікі і вучні. Займальна выканаў твор «Беларусь наша песня» і заняў першае месца хор «Анімата» з Нарваўскага асяродка культуры, якім апякуецца Марта Грэдаль-Іванюк. Другое месца заняў хор «Ручнічок» ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, які да цікавага выступу падрыхтавала Іаанна Хількевіч. Хор «1/3» з ПШ у Орлі заняў трэцяе месца, а да ўдалага выступу падрыхтавала яго Альжбета Цюлькевіч. Цікава і адважна запрэзентаваліся таксама вучні Непублічнай падставовай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, якіх падрыхтавала Ала Каменская. Састаўляюць яны школьны хор, які таксама заняў трэцяе месца.

— Мы любім спяваць па-беларуску, бо беларускія песні прыгожыя, — заявілі вучні хору «Анімата» з Нарвы.

Калектыў «Даміно» з Гайнаўскага дома культуры займальна праспяваў песню «Грыбны дожджык» і заняў першае месца ў катэгорыі дашкольнікаў і вучняў I-III класаў. «Даміно» ўваходзіць у састаў Студыі песні ГДК, якой апякуецца Марта Грэдаль-Іванюк. Цікава запрэзентаваўся і атрымаў другое месца калектыў «Верабейкі» з Дзіцячага садка № 3 у Бельску-Падляшскім, якім апякуецца Іаанна Петручук. Асабліва хваляваліся ў час выступаў бацькі дашкольнікаў і наймалодшых вучняў. Яны дома дапамагалі дзеткам развучыць словы песень, праўралі іх спеў.

У катэгорыі салістаў з ліку дашкольнікаў і наймалодшых вучняў пераможцы запрэзентаваліся займальна. Першае месца заняла Ксенія Граматовіч з Садка № 1 у Бельску-Падляшскім, а Ніна Нічыпарук з бельскай «тройкі» заняла другое месца. Першае месца заняла таксама Ізабела Пятрочук, а другое месца журы прысвоіла Аляксандры Волчык. Абедзве яны выступілі ад Студыі песні ГДК. Другое месца заняў яшчэ Віктар Садоўскі з Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку, а Філіп Каральчук з гэтага ж цэнтра заняў трэцяе месца. Габрыель Якімюк з НПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку заняў трэцяе месца. Выдатная большасць выступоўцаў умела і цікава запрэзентавала сучасныя творы і народныя песні.



■ Вакальны калектыў «Пульс» Студыі песні ГДК


■ Дуэт Кацярына і Марта Васькоўскія



— Атмасфера ў час конкурсу добрая, а выступаючы тут мы здабываем новыя ўмеласці і вопыт, — сказалі дзеткі.

Старэйшыя вучні выступілі з больш складаным рэпертуарам, але наогул выконвалі яго на высокім узроўні. З ліку вучняў класаў IV-VI першае месца заняў Бартламей Келса з бельскай «тройкі», а трэція месцы занялі Дарыя Лажэцкая і Матэвуш Лапацюк — вучні гэтай жа школы. Поспехаў у гэтай катэгорыі дабіліся дуэт Кацярына і Марта Васькоўскія (падрыхтавала Анна Васькоўская) з НПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, якія занялі першае месца. Ізабела Матышак заняла другое месца, а Марына Місяюк — трэцяе месца, якія таксама з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы.

— У нашым хоры выступаюць вучні розных класаў. Школьныя заняткі канчаюцца ў іх у розным часе і складана сабраць членаў хору на рэпетыцыі. Аднак беларускія песні нам вельмі блізкія і мы мабілізаваліся, каб выступіць як хор і выканаўцы ў меншым саставе, — заявіла апякунка Ала Каменская з НПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

Трэціх месцаў дабіліся вучні ПШ № 4 у Беластоку, дуэт Зофія Галубоўская і Паўліна Цыванюк, з ліку наймалодшых дзетак і тэрцэт Кацярына Васілюк, Ніка Паўлоўская і Аляксандр Хаманюк, якіх да выступу падрыхтаваў Кірыл Лепай.

Вучні класаў VII-VIII і III класа гімназіі запрэзентаваліся ў большасці на вельмі высокім мастацкім узроўні. Заспяваў займальна і першае месца здабыў вакальны калектыў «Пульс» Студыі песні ГДК, якога музычным кіраўніком з'яўляецца Марта Грэдаль-Іванюк. Першае месца з ліку салістаў атрымала Марыя Савіцкая, другое — Мартына Белавежац, а трэцяе Ванда Гіншт, усе з гэтай жа студыі ГДК.

— Я сваім вучаніцам падбіраю адпаведны рэпертуар. Гэта перш за ўсё эстрадныя песні, якія выконваюцца ў Беларусі. Удзел у конкурсных слуханнях «Беларускай песні» гэта таксама новы вопыт, — сказала Марта Грэдаль-Іванюк, музычны кіраўнік Студыі песні ГДК.

Спадарыня Агнешка Масальская, маці Олі Масальскай, пахваліла ангажаванасць спадарыні Марты ў працу з вучнямі і высокі ўзровень спеву дзяўчат са Студыі песні ГДК.

— Атмасфера ў час конкурсу добрая, а апрача свайго выступу можам таксама паслухаць спеў іншых выканаўцаў, — заявілі вучні Студыі песні ГДК.

Вучаніца НПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія Марыя Савіцкая пастаянна прыязджае з Беластока на рэпетыцыі ў ГДК і дабіваецца поспехаў разам з гайнаўскімі дзяўчатамі.

— Мне вельмі спадабаўся выступ калектыву Студыі песні з Гайнаўкі і я вельмі хацела стаць яго членам і вучыцца спяванню ў спадарыні Марты Грэдаль-Іванюк, што здзейснілася, — сказала Марыя Савіцкая.

У катэгорыі найстарэйшых вучняў Юлія Саўчук з Нарваўскага асяродка культуры заняла трэцяе месца. Трэцяе месца заняў квартэт Наталля Паўлючук, Марыя Савіцкая, Кацярына Лягойда і Юлія Плева з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку.

Найстарэйшыя вучні бельскай «тройкі» запрэзентаваліся па-акцёрску. У катэгорыі калектываў першае месца заняў вакальны калектыў «Капрыс», якога музычным кіраўніком з'яўляецца Анна Вярцінская. Першыя месцы атрымалі таксама вучаніцы гэтай жа «тройкі», салістка Вікторыя Гаць і дуэт Вікторыя Гаць і Анеля Хмур, а другое месца журы прысвоіла яшчэ салістцы Анелі Хмур.

— Калектыў «Капрыс» выступае падчас школьных урачыстасцей. Любім спяваць і таму цікава нам сёння выступіць, — заявілі вучаніцы бельскай «тройкі».

Рэпертуар запрэзентаваны ў час цэнтральных элімінацый быў багаты і разнастайны, а ўдзельнікі конкурсу ў агульным спявалі на высокім мастацкім узроўні. На гэта звярнулі ўвагу члены камісіі, у якой працавалі Марта Врублеўская, Рэната Тушынская і Міхал Варшыцкі.

— Штораз больш складана перамагчы ў конкурсе «Беларуская песня», паколькі юныя выканаўцы з розных мясцовасцей спяваюць цудоўна, — гаварылі апекуны канкурсантаў.

— У агульным удзельнікі цэнтральных элімінацый выступілі на высокім узроўні і запрэзентавалі цікавы песенны рэпертуар, хаця сёлета да конкурсу «Беларуская песня» прыступіла менш выканаўцаў. На вельмі высокім мастацкім узроўні выступілі вучні, якіх да конкурсу рыхтавалі Марта Грэдаль-Іванюк з Гайнаўкі, Анна Вярцінская і Іаанна Хількевіч з Бельска. Добра спявалі і перамагалі таксама дзеткі і моладзь з прадшколляў, школ і асяродкаў культуры. На цэнтральныя элімінацыі былі кваліфікаваны самыя лепшыя выканаўцы і амаль усе з іх занялі прызавыя месцы або атрымалі вылучэнні. Найчасцей пераможцамі становяцца вучні, якія перамагалі ў папярэдніх конкурсах, але таксама паяўляюцца новыя салісты. Выступы з беларускімі песнямі, гэта таксама вучоба беларускай мове. Самыя лепшыя выканаўцы «Беларускай песні» дабіваюцца таксама поспехаў у іншых агульнапольскіх конкурсах, а некаторыя пераможцы конкурсу ў мінулым прадаўжаюць спяваць будучы дарослымі асобамі, — сказаў Васіль Сегень, віцэ-старшыня БГКТ, якое ўспамагала Таварыства беларускай культуры і Бельскі дом культуры ў арганізацыі цэнтральных элімінацый «Беларускай песні».

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

## Сцёртыя белыя палосы

Зараз надвор'е цяплее з кожным днём. Можна аднаўляць сцёртыя белыя палосы г. зв. зебры на асфальтавых маставых дарог і вуліц , між іншым, у Гайнаўцы, але дарожныя службы яшчэ не прыступілі да такіх прац. Сцёртыя палосы амаль на кожнай гайнаўскай вуліцы, а ўжо асабліва ў цэнтры горада, між іншым, на вуліцы 3 Мая, Баторыя, Пілсудскага, Беластоцкай, а. Антонія Дзевятоўскага. Не інакш выглядае справа гэтых гарызантальных дарожных знакаў на вуліцах у вёсках у Гайнаўскім павеце.

І палосы асабліва на рухлівых вуліцах неабходна памаляваць. Перш-наперш там, дзе жыхары горада ці вёсак часта пераходзяць вуліцу з аднаго боку на другі. Сціраюць іх пакрышкамі грузавыя аўтамабілі і аўтобусы ды й легкавушкі таксама.

Добра відавочныя белыя палосы на вуліцах патрэбны для таго, каб пешаходам было больш бяспечна рухацца па вуліцах. Час і пара тады дарожным службам прыступіць да аднаўлення сцёртых белых палос асабліва там, дзе яны мала прыкметныя. **(яц)**

## Запрашэнне да конкурсу

Войт Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета запрашае ўсіх мясцовых жыхароў да конкурсу пад загалоўкам „Найпрыгажэйшая сялянская сядзіба ў 2019 годзе ў Нараўчанскай гміне". Могуць прыняць у ім удзел г.зв. агратурыстычныя кватэры. Заяўкі ад ахвотных да ўдзелу прымаюць у сакратарыяце Гміннай управы ў Нараўцы да 15 чэрвеня 2019 года. Час трывання конкурсу ад 16 чэрвеня да 15 ліпеня гэтага года.

Конкурсная камісія будзе ацэньваць, між іншым, кветкавыя прыдамашнія агародчыкі і панадворкі або ўсю сялянскую сядзібу. Пераможцы конкурсу атрымаюць грашовыя ўзнагароды і дыпломы напрыканцы лета.

Варта дадаць, што нараўчанскія гмінныя ўлады ладзяць конкурс шмат гадоў. Удзельнічалі ў ім жыхары чатырнаццаці вёсак, у тым ліку найбольш з Альхоўкі, Заблотчыны, Міклашэва, Нараўкі, Плянты, Скупава, Семяноўкі і Тарнаполя. **(яц)**

## Больш веласіпедных сцежак

У Беластоку з кожным годам прыбывае веласіпедных дарожак. Цяпер маем іх больш ста кіламетраў. Некаторыя з іх маюць даўжыню да пяці кіламетраў, гэта, між іншым, веласіпедная сцяжынка ўздоўж вуліцы 42 Пяхотнага палка на жыллёвым пасёлку Выгода. Зараз з пасёлка Выгода ў цэнтр горада даедзем сцяжынай ад алеі Пілсудскага да вуліцы ген. Андэрса. Новыя трасы для веласіпедыстаў пабудавалі па вуліцах Вярбовай, Канстытуцыі 3 Мая і зараз будуюць пры вуліцы Антанюкоўскай і алеі Салідарнасці. Каб было больш бяспечна ехаць, пабудавалі дарожкі над рачулкай Белай ды пад двума мастамі ўздоўж алеі Пілсудскага да вуліцы Палацавай. Яшчэ пабудуюць веладарожкі пры вуліцах Прадукцыйнай і Жаромскага (ад Пілсудскага да св. Юрыя).

У апошнія гады пабудавалі новыя веласіпедныя шляхі, між іншым, пры вуліцы Браніцкага, Радзымінскай, І Арміі Войска Польскага, Пагоднай, Звежынецкай і ген. Галера ды яшчэ 3-кіламетровую сцежку з Беластока ў Васількаў. Варта дадаць, што для веласіпедыстаў вельмі важна, каб веласіпедныя сцежкі спалучаліся і была магчымасць спакойна даехаць па іх з перыферыі горада ў цэнтр Беластока. **(яц)**

# ГМІННЫ ЦЭНТР КУЛЬТУРЫ ў Гарадку мае новага дырэктара

**Арганізуе гмінныя мерапрыемствы і імпрэзы, вядзе заняткі па зумбе, трэніруе моладзь, судзіць матчы, дзейнічае грамадска, з'яўляецца мамай, жонкай... і новым дырэктарам Гміннага цэнтра культуры. Аб новым будучым ГЦК і месцы беларускай культуры «Ніва» размаўляе з Магдаленай Лотыш.**






■ Магдалена Лотыш, Радаслаў Кулеша, Дарота Сульжык і дзеці

**— Што Вас падштурхнула прыняць удзел у конкурсе на дырэктара ГЦК?**

— Гэта не было лёгкае рашэнне. Калі я даведалася аб конкурсе, доўга думала ці гэта ўжо той час. Я ўжо адчувала сябе на сілах, каб абняць такую пасаду, але ведала, што мой канкурэнт (Юрка Астапчук) вельмі вопытны дзеяч культуры. Усё-такі ў мяне была патрэба развіцця. Я хачу рабіць больш, яшчэ больш. Ведала, што калі не цяпер, то ўжо ніколі не надыдзе добры момант на развіццё. Я лічу, што маю план на наш асяродак культуры, які б паспрыяў далейшаму развіццю. Перш за ўсё хачу, каб мы былі бліжэй людзей. Так, стартуючы ў конкурсе, я ведала, што стаўляю ўсё на адну карту. Зараз я думаю, што гэта было добрае рашэнне, якое дазволіць на маё развіццё і развіццё гарадоцкай культуры.

**— Стартуючы, ці асабліва зараз, Вы напэўна бачыце плюсы і мінусы дзеянняў сваіх папярэднікаў.**

— Кожны, я таксама, мае свае хібы. Думаю, што не было дрэнна, паколькі мы зараз працуем у адным з найлепш абсталяваных асяродкаў культуры ў ваяводстве. Таксама мой папярэднік Юрка Астапчук нават праз свае песні прамаваў нашу культуру ў Польшчы і свеце. Не хачу гаварыць пра мінусы, кожны хай сам мяркуе па сабе. На маю думку трэба, каб працаўнікі ГЦК гулялі ў адны вароты.

**— Добра, не хочаце гаварыць пра мінусы, тады калі ласка скажыце пра Ваш напрамак і новае будучае Гміннага цэнтра культуры.**

— Напэўна хачу, каб жыхары нашай гміны таксама мелі ўплыў на дзеянні ГЦК. Гэта не так, што зараз тут працуе сем чалавек і гэта яны будуць вырашаць аб усім. Не, жыхары павінны ўплываць на падзеі ў гміне і тут перад намі стаіць задача, каб зрабіць ім гэта магчымым. Важнае памятаць пра нашы вёсачкі. Мы працуем у Гмінным цэнтры культуры, а не гарадоцкім, таму неўзабаве напэўна будзем працаваць шырэй. Таксама хачу больш карыстацца вонкавымі фінансавымі сродкамі, маю на ўвазе Нацыянальны цэнтр культуры, Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны, а таксама сродкі з LGD (Lokalne Grupy Działania). Пісаннем праектаў я займалася таксама раней, таму і зараз для мяне гэта не праблема, але хачу падкрэсліць, што я сама гэтаму вучылася. Я — самавучка. Ніколі не ўдзельнічала ў нейкіх курсах па пісанні праектаў. Таксама хачу больш фальклору на нашых вуліцах. Гарадок, гэта такая жамчужына на карце нашага ваяводства. Мы славімся шматкультурнасцю, колерамі, якіх занадта не відаць. Я думаю, што колеры вернем, між іншым, дзякуючы Дароце Сульжык ці Марысі Мялешка, якія з'яўляюцца вельмі таленавітымі народнымі творцамі. Дзякуючы ім таксама ўдасца яшчэ больш прамаваць культуру Гарадка.

**— Напэўна неад'емнай часткай Гарадоцкай гміны з'яўляецца беларуская культура. Як плануеце яе прасоўваць?**

— Гэта вельмі важны элемент, можна нават сказаць, што гэта прыярытэт. Аднак не так даўно мы апрацавалі дыягназ культурных патрэб нашых жыхароў і аказалася, што існуе патрэба культывавання беларускіх мерапрыемстваў, аднак людзі хочуць крыху іншай формы, бо гэта, відаць, вынікае з цывілізацыйных і тэхналагічных змен. Гэта, напэўна, выклік для нас, каб надалей развіваць нашу культуру. Я не збіраюся адмаўляцца ад імпрэз, якія арганізавалі мае папярэднікі. Але гэта вынік тых размоў з жыхарамі, трэба культуру развіваць, каб людзям падабалася. Мы існуем для іх. Напэўна важным мерапрыемствам надалей будзе „Сяброўская бяседа", якой 20-годдзе будзем адзначаць 27 ліпеня. Будзем працягваць таксама беларускія імпрэзы ў нашых вёсках, але перш за ўсё мне залежыць, каб маладыя людзі працягвалі спадчыну нашых калектываў, каб вучыліся песень, мовы і нашых традыцый. Вялікую ролю таксама будзе адыгрываць наша газета «Гарадоцкія навіны» і менавіта вёскі, дзе цэлы час беларуская мова жывая. Варта таксама было б выдаць манаграфію Гарадоцкай зямлі. Над гэтым працуе Вера Тарасэвіч. Неабходна здымаць фільмы, якія будуць дакументаваць нашу спадчыну і рознага тыпу праекты нават ужо з дашкольнікамі.

**— Тым больш, што ў гміне існуюць школы дзе вядзецца навучанне беларускай мове.**

— Так. Я таксама разумею беларускую мову, але на жаль на ёй не размаўляю. Нават лічу, што гэта мой найбольшы мінус, але вучуся і раблю прагрэс у вывучэнні мовы. Мы ўжо не гаворым, а што сказаць пра дзяцей, таму добра было б, каб дзеці, якія вывучаюць беларускую мову, маглі яе выкарыстоўваць у розных дзеяннях.

**— Якое будзе першае рашэнне новага дырэктара Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку?**

— Я прыняла пасаду дырэктара ў вельмі гарачы перыяд. Напэўна лягчэй было б прывыкаць да гэтай пасады зімой, калі няма так шмат мерапрыемстваў. Усё-такі зараз я проста засяродзілася на фармальнасцях звязаных з арганізацыяй «Сяброўскай бяседы». Гэта масавае мерапрыемства і сапраўды трэба дапільнаваць шматлікіх фармальнасцей. Магчыма, некаторыя чакаюць рэвалюцыі, але я планую сістэматычна ўводзіць мае новыя ідэі. Хачу арганізаваць вулічныя бегі, веласіпедныя рэйды, людзі не чакаюць ад нас спектакулярных атракцый, але перш за ўсё такіх, якія будуць нас інтэграваць. Вяртаючыся да маіх першых рашэнняў, ужо вядома, што сёлета вернецца зорка фестывалю. На тую хвіліну магу толькі сказаць, што гэта будзе вядомы і папулярны гурт, які таксама напэўна будзе неспадзяванкай для ўсіх аматараў «Сяброўскай бяседы».

**— Чакаем з нецярплівасцю. Дзякую за размову.**

Размаўляла
**Уршуля ШУБЗДА**

Фота з архіва ГЦК у Гарадку

Размова з **Яўгеніяй ХМЯЛЕЎСКАЙ**, у дзявоцтве Пятроўскай, 1931 года нараджэння з Орлі.



# Арляне бралі жыдоўскіх пагарэльцаў у свае хаты

**— Ці помніце сваіх дзядоў?**

— Дзяды па маці Параскева і Міхаіл Багацэвічы. Дзед молада памёр на сэрца, а бабуля памерла, калі я ўжо была дарослай.

Дзяды па бацьку Марыя і Антон Пятроўскія. Дзед памёр у час бежанства на Украіне. Голаду не мелі, бо дзед працаваў у млыне і бабуля часам пякла булкі.

Калі вярнуліся, то большасць дамоў, у якіх раней жылі праваслаўныя, была спалена. Спалі на гарышчы на плябаніі; было там такое логава. Гадавалі яшчэ двое дзяцей дзедавай сястры, бо молада памерла, а муж быў хворы.

**— Ваша сям'я, дзяцінства...**

— Бацькі — Вера і Рыгор Пятроўскія — мясцовыя. Было нас чацвёра дзяцей: Коля з 1929 года, пасля я, Шурык з 1933 і Валя з 1941 года. То я Валю пільнавала, насіла перад сабою і на спіне, бо яна хацела ўсюды са мною быць. Мама працавала ў полі, бацькі мелі гаспадарку. Улетку дзеці ўвесь час прабывалі на двары. Хаты не замыкалі, бо Валю трэба было класці ў калыску, якая вісела са столі. Жылі мы па вуліцы Партызанаў; тут я нарадзілася і зараз жыву. Хата драўляная з 1905 года. У мураванцы, якую пабудавала я з мужам Пятром і ў якой мы жылі раней, зараз жыве наш сын Марэк з сям'ёю.

**— У школу Вы, пэўна, хадзілі яшчэ з жыдамі. Ці запамяталі кагосьці?**

— Пры санацыі скончыла першы клас, а пасля ўспыхнула вайна. Майго настаўніка Далкоўскага забралі ў войска — ён быў малады, толькі што па школе. Усе настаўнікі былі звонку, апрача Васіля Лашкевіча [быў з Пружан — М. М.]

Вучылася разам з жыдамі. Памятаю дзяўчыну Малі — дачку Янкеля Бушміца, які жыў у самым канцы Орлі і ў полі меў ветравы млын. У Янкеля было яшчэ два дарослыя сыны Шмулі і Лейзэр. Са мною вучылася таксама дзяўчына Рыўка, якая жыла паміж аптэкай і Авелем [пасля вайны было там кіно — М. М.]

У класе сядзелі як хто хацеў. Жыды былі лепш апранутыя.

**— Ці ў школу хадзілі басанож?**

— Не, мелі нейкі абутак, а часам, калі вярталіся са школы, неслі абутак у руках.

**— Школа ў час вайны?**

— Пры саветах вярнулі мяне ў першы клас. Вучылі Врублеўскі і ягоная жонка, Цежухоўская — жыла ў школьным будынку з боку падвала. Правучылася два класы і зноў вайна, нямецка-савецкая. Вучылася яшчэ пры немцах. Былі два класы. Вучылі толькі рахункам, нямецкай мове вучыла пані са Шчытоў, Давідзюк (ужо па мужу). Пры немцах Врублеўскага не было ў Орлі.

**— А ці помніце дарослых жыдоў?**

— Недалёка нашай хаты, на рагу вуліц Кляшчэлеўскай і Партызанаў, два браты Файбэль і Ошэр мелі свой шпіхер, у які скуплялі збожжа. Ошэр жыў па Кляшчэлеўскай, дзе зараз Ляўчук, а Файбэль — дзе пабудаваўся Мураўскі; харошы дом. Меў ён дарослага сына Мэлі, які прыходзіў да нас пагрэцца, чакаючы, аж хто прывязе збожжа.

Памятаю, як мае бацькі закалолі кабана, мама нажарыла свініны. То той Мэлі высылаў мяне перад хату, каб я выглядала на вуліцу ці яго бацька не едзе, а ён у той час еў свініну [іўрэям рэлігія забараняла спажываць свініну — М. М.], яму смакавала.

Пасля Ошэр аддаліўся ад Файбеля і пабудаваў яшчэ другі шпіхер, дзе зараз пляц Куптыля, над ровам на рагу вуліц Кляшчэлеўскай і Пасвятнай. У час пажару хата Ошэра не згарэла. Са стараны вуліцы паўз цэлую хату цягнулася лесвіца. Пасля жыў там войт Ванькоўіч [пры саветах сям'ю вывезлі ў Сібір, а яго забралі ў беластоцкую турму, з якой выйшаў у пачатку вайны — М. М.]

**— Ці помніце слаўную гасподу жыда Бэрка?**

— А якая ж то была гаспода? Адна толькі зала...

**— Ці дзяцей цікавіла сінагога?**

— Мы праз акно заглядалі ў бабінец. Пасля ў бабінцы жыў такі Патлер — псіхічна хворы чалавек; раней ён жыў насупраць пазнейшага асяродка здароўя, у такім будане. І жыды забралі яго з вуліцы, бо там ён вычаўпаў — рабіў розныя міны, калі дзеці ішлі са школы.

У драўляных бажніцах (стаялі па баках сінагогі) маліліся жыдоўкі. Там вывучалі Тору.

На рагу вуліцы Кашалёўскай (дзе Пішчатоўская) стаяла вельмі доўгая і нізкая хатка — там закрывалі ад вуліцы аканіцы і вучыліся. І чуваць было такі шум як ад ракі [жыў там жыдоўскі настаўнік Еўзель — М. М.]

**— Можа Вы запамяталі вялікі пажар Орлі 18 мая 1938 года?**

— Мяне бацькі не пусцілі на пажар. Дым бачыла; страшна было глядзець.

**— У Вашых бацькоў была гаспадарка. Ці праваслаўныя збіралі пагарэльцам бульбу, збожжа?**

— Аб гэтым не чула.

**— Ці арляне памагалі жыдоўскім пагарэльцам?**

— Праваслаўныя, якія не пацярпелі ад пажару, усе бралі жыдоў пад свой дах для кватаравання. Тут, па вуліцы Партызанаў, у кожнай хаце разам з праваслаўнымі жылі жыды. У каго толькі быў свабодны куток, то дапамагалі. Памятаю — у Філіпіка Адзіевіча жылі дзяўчыны Гана, вельмі прыгожая, Дрэйля і найменшая, такая як я.

І жыды зараз будаваліся. Тут, па вуліцы Міцкевіча, гэтыя драўляныя дамы то ўсё жыдоўскія, пабудаваныя пасля пажару.

**— А як было пры немцах?**

— Немец перасяляў у Орлю ад Пушчы, амаль цэлае Масева; пасля яны выехалі.

Калі немцы прыйшлі ў Орлю, то зараз спалілі будынак жыдоўскай аптэкі; гэта быў вельмі прыгожы будынак. У аптэкара была дзяўчынка, называлася Мэця. Калі падпалілі аптэку, то згарэў і суседні будынак — старая, доўгая, вялікая чорная хата, такая недагледжаная. З тае хаты хадзіла са мною ў школу дзяўчына Рыўка.

Немец, калі прадаў крамкі, там дзе зараз парк, то тое месца зараз абгарадзілі ў дзве жэрдкі, пасадзілі дрэвы і паклалі тратуары па вуліцы там і насупраць царквы. Немцы то культурныя.

**— Пры немцах усе мусілі працаваць?**

— Калі ўжо было гета, то жыд Шэпо (жыў па вуліцы 3 Мая, быў земляробам) сваіх коней трымаў у праваслаўнага Харуя; немец дазволіў прыходзіць да Харуя.

На старым кіркуце побач сінагогі мацэвы разбівалі вясковыя людзі. Мацэвы былі толькі з каменя, мураваных не было.

У царкве пры немцах набажэнствы адбываліся. Бацюшка Туроўскі быў прывілеяваны; было ў яго тры дачкі і сын Віця.

Бацькі мелі двое коней, восем гектараў зямлі. Памятаю, як немцы хадзілі і глядзелі ў гаспадароў запасы збожжа. Людзі апасаліся, што як будзе многа, то забяруць. Як ішлі, то я дрыжэла, баялася. Зайшлі у камору, аграном, хадзіў з міліцыяй, кажа: „Gospodarzu, a czym ty będziesz dzieci karmić? Nie masz już żyta...". А бацька перад тым крыху таго жыта схаваў.

**— Як было пасля вайны? Як працавала школа?**

— Паслалі мяне ў чацвёрты клас. Вучылася ў „вялікай" школе. Вучылі Васіль Лашкевіч, Мікалай Нестаровіч, пасля Мікалай Ляшчынскі...

Працавала я ў школе сакратаркай, пасля кнігаводам, пасля ў кафлярскай святліцы (пры вуліцы Міцкевіча) пры дзецях; былі гэта дзеці працаўнікоў кафлярні, якія пасля школы абедалі і адраблялі ўрокі.

Замуж выйшла ў 1952 годзе, за Пятра. У нас трое дзяцей: дачка і два сыны.

**— Дзякую за размову.**

Размова і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

## Жанчыны любяць кветкі

Анна Федарчук мае свой кветкавы магазін „Ірыс" у Гайнаўцы каля скрыжавання вуліц 3 Мая і кс. Верабея. Ён — так бы мовіць — у добрым месцы, бо ў цэнтры горада. Сюды прыходзіць даволі многа наведвальнікаў, перш-наперш жанчын. Наш прыгожы пол любіць кветкі. Жанчыны маюць іх у сваіх кватэрах круглы год. Кветкі радуюць зрок, папраўляюць настрой сваёй прыгажосцю, колерам, пахам. Нядаўна — 26 мая гэтага года — шмат кветак прадала кветачніца ў Дзень маці, а раней у Міжнародным дні жанчын. Неўзабаве ў чэрвені будзе заканчэнне навучальнага года і кветкі будзе купляць школьная моладзь, а ў горадзе яе шмат. Варта дадаць, што ў спадарыні Анны заказваюць кветкі для дэкарацыі вясельных дамоў. Вяселлі часта адбываюцца ў гайнаўскім рэстаране „Леснічанка" па вуліцы 3 Мая і тады яго залы ўпрыгожваюць кветкамі.

Спадарыня Анна (яна ўраджэнка Гайнаўкі) вядзе свой кветкавы невялікі магазін з 2011 года. Яна сказала мне, што вельмі любіць кветкі. Прадаваць кветкі дапамагае ёй яшчэ дачка. У горадзе на ўскраіне Белавежскай пушчы пяць кветкавых магазінаў, між іншым, „Агатка", „Тамара", „Касач" і „Лаванда". У іх жанчыны маюць для сябе працу, якую любяць.

Кветак у яе прыгожым магазіне ёсць сама менш дзевятнаццаць відаў. Тут ружы, гваздзікі, герберы, цюльпаны, бягоніі, фрэзіі, ятрышнікі, маргарыткі, пахучыя ліліі і іншыя гэтыя цудоўныя расліны. Ёсць у продажы жывыя і штучныя кветкі. Тут можна купіць гатовыя або на заказ вялікія вянкі і букеты кветак з упрыгажэннем. Гайнаўскай кветачніцы кветкі прывозяць, між іншым, з біржы.

(яц)

## Мароз пашкодзіў

Натура сёлета капрызнічае. На прадвесні нічога не прадвяшчала, каб у час квітнення фруктовых дрэў «выскачыў» мароз. У маім агародчыку белай квеценню пакрыліся вішні, чарэшня, грушы, яблыні ды слівы. Крышачку раней выраслі смарчкі. Беластоцкая дачушка прад'явіла, што за сёлетнімі фруктамі прыедзе на вёску і сама іх пазбірае, затым прызначыць на сокі, віно ды варэнне. Паўтарамесячная шпіталізацыя заставіла пакінуць гаспадарку і дом без дагляду. Перш-наперш, калі я вярнуўся дамоў 27 траўня, пайшоў паглядзець за гароднінай. І вачам не даваў веры, што на вішнях, чарэшні і венгерках няма фруктаў. Раскідзісты куст чорнай парэчкі схіляўся пачарнелым быццам пасля пажару. Таксама было з кустом вінаграду. Падмерзлі. За агароджай у суседа віднеў пачарнелы грэцкі арэх. Сёлета, значыцца, не будзем мець садавіны на сокі ды канфітуры. Травень не надта быў цёплы і без ападкаў. Пачатак чэрвеня пачаўся амаль трыццаціградуснай спёкай. Сіноптыкі прадвяшчаюць далейшае ацяпленне. А дажджу выглядаем як з-за мора пагоды. Селяніну не на руку такое надвор'е. Плён можа быць мізэрны. Затым сельскагаспадарчыя прадукты будуць даражэйшыя. Аж верыць не хочацца, што за паўкілаграмовы бохан «бальтаноўскага» хлеба трэба заплаціць 2,69 зл. Аб кумпяках і рознага віду мясных вырабах лепш не гаварыць. А пенсіянеру перад еўрапейскімі выбарамі прэзас Качыньскі падарыў трынаццатую палучку ды і з іе абскубаў на падаходны падатак, каб сеніёры не разбагацелі. «Беднаму заўжды вецер у вочы», — казалі старажылы. Бо гэта праўда.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Любоў — як трэба!





Калі ў Падставовай школе № 3 у Бельску-Падляшскім завяршылі свята ўручэння штандару школе, мы спыталі ў гасцей пра ўражанні ад пабачанага. Усе хвалілі наймалодшых за іх музычны падарунак. Кожны з нас сотні разоў чуў песню «Люблю наш край, старонку гэту». Яе лічаць таксама гімнам бельскай «тройкі». Дык вось у гэты дзень песня загучала быццам адроджанай, новай, вясновай. Напэўна паўплываў на гэта высокі ранг свята, дастойныя госці, казачнае майскае надвор'е.

Усе школьнікі апрануліся дбайна, густоўна, як на найбольшае свята. І відаць, што перажывалі ўсе, уключна з бацькамі. У калектыве быццам адны касцюмы, але гэта не так, што ўсе выглядаюць аднолькава. Часам у аднастайных колерах пабачыш больш, чым у разнавіднасці. Якія прыгожыя прычоскі матулі прыдумалі дзяўчаткам!

Сёння кожны з асобна хацеў падарыць сваё сэрца публіцы. І сапраўды, калі яны заспявалі гімн школы «Люблю наш край», у песні адчуваліся шчырая любоў, вясна, захапленне. Ажно мурашы па спіне бегалі!

Павагу хвіліны прадэманстравалі гарцэры, якія ў момант выканання гімна стаялі на зважай, з адданнем пашаны. Усе моцна перажывалі, ад хвалявання некаторыя хлапчукі нават самлелі...

Але, як гаварылі гледачы і госці, яны ўзрушылі да слёз. Можа сыграўся такі момант, які наклікаў непаўторную атмасферу. Можа прысутнічаў дух Ярослава Кастыцэвіча, якога ўсе ўспаміналі добрым, удзячным словам? Добрая памяць — гэта вялікая сіла і каштоўнасць.

Вядома, не абышлося тут без рэпетыцый і падрыхтовак. Словам, атрымалася лепш, чым можа атрымацца. Пра такія хвіліны кажам, што яны незабыўныя і такімі іх запамятаем.

Песня «Люблю наш край» узнікла на словы Канстанцыі Буйло. Легенда кажа, што твор паэтэса напісала ў 14 гадоў, будучы вучаніцай Віленскай беларускай гімназіі. Пазней большасць свайго жыцця аўтарка пражыла ў Маскве. Яна заўсёды здзіўлялася, што яе дзіцячы твор несмяротны, што спяваюць яго беларусы ва ўсім свеце, дарослыя і дзеці. Але калі добра падумаць, дык усё тут як трэба, на месцы. У дзяцей — шчырае захапленне светам і жыццём. Нам прыемна, што апрача смартфонаў і гульняў-страшылак дзеткі ўмеюць захапіць прыгожасцю жыцця, бо яны самі яго ўвасабленне і вясновыя краскі.

**Зорка, фота ГК**

*Пятрусь БРОЎКА*

## *Замалёўка*

*Спявае лета над барамі,*
*Сасонкі струнамі звіняць,*
*Гамоніць поле каласамі,*
*Шапоча ў кветках сенажаць.*
*Шумяць вятры ў гаях напеўна.*
*Адна рачулка ў чаратах*
*Бурчыць, варочаецца гнеўна,*
*Бы мулка спаць на камянях.*
*А можа, з навіны ў ахвоту,*
*Пакуль міне плацінаў строй,*
*Так напрацуецца да поту,*
*Што пара раніцой над ёй.*

*Міхась ПАЗНЯКОЎ*

## *Летні дождж*

*Хто пяшчотны і рахманы*
*Разбудзіў мяне так рана?*
*Па аконцы мяккай лапкай*
*Ціха-ціхенька падрапкаў.*
*Прашаптаў:*
*— Прачніся, Галька,*
*Бо цябе чакае лялька.*
*Ноч сядзіць на лаўцы,*
*Вельмі сумна лялькцы.*
*Больш яе не забывай,*
*Ляльку ў хату забірай.*
*Да акна я:*
*— Хто там? Хто ж? —*
*Гэта цёплы летні дождж.*

## УВАГА КОНКУРС!

## № 23-19

**І сваё дзіця не забыла, і чужых малачком напаіла.**

(К.....)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 23 чэрвеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адаз на загадку № 19:**
**Год, месяц, тыдзень, дзень.**
**Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Юля Дарпенская, Оля Мадзалеўская, Міхась Тапалянскі з Нарвы, Юля Гжэсь, Каміль Мартонік з Залук. Віншуем!**

# Свет прафесійнай фатаграфіі!

## Вучні з Залук сустрэліся з інфарматыкам і фатографам **Паўлам Тадэйкам**

Чаму адны здымкі здаюцца быць лепшымі за іншыя і як дасягнуць найлепшага эфекту? Ці кампазіцыя — важная і як парушаць яе правілы? Між іншым аб гэтым расказваў Павал Тадэйка, які наведаў нашу школу ў рамках Журналісцкага гуртка.

Доктар Павал Тадэйка — выкладчык факультэта інфарматыкі Беластоцкага політэхнічнага інстытута. Ён таксама працуе ў некалькіх IT-кампаніях, займаецца прагрkörамаваннем, праграмнай інжынерыяй, але перш за ўсё любіць фатаграфаваць Падляшша.

— Часам некаторыя наракаюць, што вы — сучасныя карыстальнікі суперсмартфонаў, можаце гадзінамі сядзець перад экранамі мабілкі. Але адмовіцца ад усіх магчымых гаджэтаў нерэальна. Вы зараз з лёгкасцю гэтым усім карыстаецеся. Дык чаму не накіраваць ваша захапленне ў карыснае рэчышча? — запытаў у час майстар-класаў спадар Павал. — Праграмаванне, камп'ютарная графіка... Дарэчы, у будучым гэта можа перарасці ў даволі прыбытковую прафесію.

Спадар Павал паказаў, што фатаграфія ў цяперашні час для ўсіх, хто ўмее разумна карыстацца электроннымі прыладамі. Аднак дзеля гэтага варта ведаць некалькі трукаў, з дапамогай якіх здымкі будуць вельмі добрыя. На занятках са спадаром Паўлам мы даведаліся як на практыцы карыстацца функцыямі нашых мабільнікаў і простымі праграмамі. Дзякуючы майстар-класам мы ведаем як пры дапамозе розных гаджэтаў зрабіць файны здымак, або зняць кароценькі ролік. Менавіта Журналісцкі гуртока з Залук зараз здымае фільмік пра вучняў восьмага класа. Напэўна паганарымся ім у фейсбуку на старонцы Сустрэчы «Зоркі».



(*падляшская народная легенда*)

# Адкуль чорны бусел?

Кажуць, некалі яны жылі побач з людзьмі. Майстравалі буслянкі на страсе хаты або хлява і кожную раніцу вясёлым клёкатам будзілі вясковых пастушкоў. Радаваліся такому суседству дзеці і старыя. А людзі кожную вясну сустракалі іх з далёкага выраю як самых дарагіх і блізкіх.

Але аднойчы ў вёсцы пасяліўся злы чалавек. Яму ўсё не падабалася. Не сцярпеў ён і буслінага клёкату. Палез ён на страху, раскінуў гняздо і паскідаў на зямлю буслянят.

Птушкі не разумелі, што здарылася. Бацькі доўга кружылі над непрыязнай сядзібай, а пасля паляцелі ў пушчанскія нетры, дзе не было людзей...

Пасяліліся на высокім дубе.

Калі ўзышло сонца, птушак было не пазнаць. Ад крыўды і гора яны пачарнелі. Потым яны пабудавалі на дубе свой дом-буслянку. З'явіліся ў іх новыя буслянаты. Даверлівыя і бялюткія, як раней бацькі. Але калі яны падраслі і пачулі ад бацькоў пра іх крыўду, таксама апрануліся ў чорнае адзенне...

Так і паляцелі яны чорнымі ў вырай.

А вясной вярнуліся. Толькі не ў вёску, а ў нашу пушчу.

І хоць нядобрага чалавека даўно ўжо не было на свеце, птушкі не могуць забыцца пра сваю крыўду ды здалёк мінаюць людскія сядзібы. Праўда, часам які чорны бусел прылятае світанкам на прынарваўскі луг, заходзіць па калені ў цёплую ваду і адтуль пагладае на стрэхі сялянскіх хат...

*(Паводле «Легенды і паданні», пераклад на сучасную мову ГК)*

Міхал АЛЕКСЯЮК
Тапаляны, ПШ у Міхалове

## Канікулы

У час канікул я выязджаў,
Свайго шчасця шукаў,
Плаваць у моры
мне не давялося,
Дык у пясочку гуляў,
Бацька смяяўся,
Калі я цэлы ў пяску схаваўся!

Аксана ЮРЧУК
Міхалова

## Лес

У лесе зелена,
У лесе весела,
Езджу малой сцяжынкай,
Забіраю з сабой сяброўку.
Часам штосьці пабачым,
Маленькага звярка ўбачым.
Я люблю на ягады хадзіць,
Я люблю іх у кошыку насіць.

# Польска-беларуская крыжаванка № 23-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 19-2019:**

Барада, бард, скіт, пар, маланка, вясёлка, яна, дым, яр, таз, карась. Бюст, вір, імя, Тася, лён, палата, банк, Аркадзь, яда, смех.

Узнагароды, **аўтаручкі,** выйгралі **Марта Петручук, Сара Дарпенская** з Нарвы, **Пётр Міранчук** з Орлі, **Мар'юш Радзецкі, Алекс Зыскоўскі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Марлена Кандрацюк, Матэвуш Асташэвіч** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Мар'я Варанчук, Зузанна Мішчук** з Арэшкава, **Каміль Мартонік** з Залук. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Sałata | | Ar | Zdanie | |
| | Wagary | Puchacz | | Dźwięki | Ganek / Komiks | | | | | |
| | | | | Kropla | | Lira / Nawet | | | | |
| | Gawron | Ikona | | | | | | | Usta | |
| | Jard | | Amator | | | | | | | Chór |
| | As | | Piwo / As | | | | | Och! | | |
| | | | | | | | | To | | |
| Wróżka | | Siostra | | | | | | | | |

Лёс беларусаў Беласточчыны

# Сям'я Емяльяна Казакевіча пакідала Беласточчыну з трыма вагонамі дабра

Сяргей ЧЫГРЫН

**Пра беларуса Емяльяна Казакевіча з Маліннік Бельскага павета мне распавядаў яго сын Пётр Казакевіч з Гародні і ўнучка Вольга Казакевіч, якая жыве ў Дзятлаве.**

Емяльян Казакевіч нарадзіўся ў 1894 годзе. Служыў у царскай арміі, арміі Карнілава, у Чырвонай Арміі, у Войску Польскім і ў Аўстрыйскім войску. Дэмабілізаваўся ў 1922 годзе. Прыехаў на Беласточчыну і вырашыў ажаніцца з мясцовай дзяўчынай Вольгай Артымовіч, якая была сіратой без маці і бацькі, а выхоўвалася ў сям'і святара. Маці памерла, калі дзяўчынцы было 16 гадоў. Емяльян прыйшоў да яе сватацца, а бацюшка кажа: „Давай грошы". „Грошай у мяне няма", — адказвае яму Емяльян. „Тады ідзі зарабі, а потым атрымаеш дзяўчыну", — прапанаваў святар. І Емяльян пайшоў працаваць, пакуль не зарабіў грошай на каханую. Заплаціў пасаг і Емяльян з Вольгай павянчаліся ў царкве.

Емяльян і Вольга Казакевічы жылі ў Невадніцы-Наргілеўскай. Пабудавалі дом. У іх сям'і нарадзіліся дзявяцера дзяцей: Марыя з'явілася ў 1926 годзе, Вера — у 1928 годзе, Барыс — у 1930 годзе, Леанід — у 1932 годзе, Уладзімір — у 1934 годзе, Люба — у 1936 годзе, Зіна — у 1940 годзе, Вольга — у 1942 годзе і Пётр — у 1944 годзе. Усе дзеці нарадзіліся ў Невадніцы-Наргілеўскай.

Сям'я Казакевічаў жыла на Беласточчыне даволі заможна. Па словах малодшага сына Емяльяна, Пятра Казакевіча з Гародні, яны на Беласточчыне мелі 11 гектараў зямлі, паўгектара зямлі было аддадзена пад трускалкі, трымалі коней, кароў, свіней...

— А чаму, — пытаюся ў Пятра Емяльянавіча, — вы пакінулі Беласточчыну? Вам там палякі пагражалі ці што?

— Было тры прычыны з-за чаго мы пакінулі сваю бацькаўшчыну. Прычына першая — гэта тое, што банды з былой Арміі Краёвай сталі пагражаць усім беларусам. Другое, каля Германоўкі бандыты забілі 10-гадовага беларускага хлопчыка. І сказалі, што будуць забіваць і далей, калі беларусы не пакінуць тэрыторыю Польшчы. І трэцяя прычына — гэта тое, што днём супрацоўнікі НКУС хадзілі па беларускіх хатах і казалі, што гэта не наша радзіма, што ёсць другая лепшая радзіма. Але мала згадвалі пра Беларусь. Найперш агітавалі ехаць у Крым, на Урал, у Ровенскую, Львоўскую і зрэдчас Баранавіцкую вобласці.

— І тады ваша сям'я вырашыла пакінуць Невадніцу-Наргілеўскую?

— Так. Мы выехалі, здаецца ў канцы 1945 года. Для нашай сям'і выдалі ажно тры вагоны.

— Тры вагоны? Для ўсіх па адным, а для вас ажно тры... Чаму?

— Таму, што ў нас была вялікая сям'я — ажно 11 чалавек і сур'ёзная гаспадарка.

— І што вы грузілі ў гэтыя тры вагоны?

— У першым вагоне было хатняе дабро: насенне, збожжа, прадукты і г.д. І мы там сядзелі. У другі вагон бацькі пагрузілі коней, карову і іншую хатнюю жывёлу. Трэці вагон заставілі плугамі, арфаю, сячкарняю, жняяркай, малатарняй, косамі, віламі, граблямі... І мы паехалі. Да Наваельні на Дзятлаўшчыну мы ехалі два з паловай месяца.



Вольга і Емяльян Казакевічы



Пётр Казакевіч жэніцца



Хата ў Дзятлаве, куды пасялілі сям'ю Казакевічаў у 1945 годзе



Люба Казакевіч, 1957 г.



Замуж выходзіць Марыя Казакевіч



Сям'я Казакевічаў

— Ого! А чаму так доўга?

— Цягнік рухаўся марудна. Заязджаў вельмі часта ў тупікі, прапускаючы хуткія і таварныя цягнікі. Стаялі без руху суткамі і тыднямі. Па чарзе бацькі і старэйшыя браты і сёстры ахоўвалі свае вагоны ад рабаўнікоў і зладзеяў.

— Іх было шмат?

— Пасля вайны людзі былі галодныя і бедныя. Днём і ноччу яны рабавалі цягнікі і ўсё, што дзе ляжала без аховы. І што можна было ўкрасці — усё кралі. Шмат з вагонаў пакралі і нашага хатняга дабра. Але мы неяк галоўнае збераглі. Я быў тады самым маленькім. Але калі я падрос, то мне пра гэта распавядалі браты і сёстры, а таксама бацькі.

— Пятро Емяльянавіч, вы так цудоўна размаўляеце на беларускай мове. Магчыма вы настаўнікам працавалі ў школе?

— Ды не, я звычайны чалавек, беларус. Пэўны час жыў на Урале, сумаваў па радзіме. А калі вярнуўся дамоў, то самастойна вывучыў родную мову, таму размаўляю на літаратурнай беларускай мове.

— Вы вельмі файна размаўляеце. Дзякуй Вам за гэта!..

Да размовы пра сваіх бацькоў і дзядоў далучаецца ўнучка старэйшых Казакевічаў, Вольга з Дзятлава. Яна распавядала пра дзядулю і бабулю з захапленнем, шчыра і адкрыта.

Калі Казакевічы прыехалі ў Дзятлава, то ім далі невялікі дом. Але аднойчы старэй-

чытайце 10



Юрка БУЙНЮК

# НАША ПАДЛЯШША (1)

***Ад аўтара:** Твор „Наша Падляшша" трэба трактаваць як сатырычны жартаўлівы твор, у якім аўтар не мае на думцы нікога ды нічога абражаць. Постаці і здарэнні ўсіх частак твора ўзяты з багатай фантазіі аўтара, а менавіта прыдуманыя, так як і сітуацыі ў творы не з'яўляюцца аўтэнтычнымі. Твор не мае за задачу нікога абражаць, а толькі развесяляць, а нават часам задумацца над зместам.*

Жывем у краіне працвітаючых кветак, рэк мёдам і золатам цякучых, у дзяржаве дзяржавы, якая горда завецца Падляшшам або Беластоцкім Краем, дзе героямі з'яўляюцца тыя, хто яшчэ асмеліўся свой жыццёвы лёс звязаць менавіта з Падляшшам. Мы — паўночна-ўсходні Шлёнск, мы — заходняе Палессе. Гэта мы прыдумалі самагонку і закуску да яе. Гэта мы прыдумалі, што хатняя свіння разносіць афрыканскую чуму свіней. Гэта мы ўцякаем з Падляшша, а на наша месца прыязджаюць варшавякі. Гэта паны са сталіцы Польшчы прыдумалі з Падляшша зрабіць Белавежскую пушчу, а з апошніх жыхароў Падляшша — экспанаты для турыстаў. А мы здзіўляемся, чаму тут ні хрэна няма: ні працы, ні нафты, ні газу, а толькі едуць да нас чужынцы, каб жыць і цешыцца нашай Беласточчынай. Гэта мы прыдумалі базар у Бельску, але гандлёвыя галерэі прыдумалі за нас палітыкі з Варшавы. Гэта мы хочам аўтаноміі і з'яднання з Лукашэнкаўскай Беларуссю. І мы хочам не ў Еўропу і не візы ў ЗША, але на Усход Еўропы. Гэта на Падляшшы ўсе спадарожнікавыя антэны настаўлены на Расію. Гэта тут эколагі маюць свой рай, паколькі гэта зялёныя лёгкія Польшчы. Палякі завуць нас Польшчай Б, а ўявіце, што было б, калі б Падляшша было ў саставе Беларусі. Тады было б самай багатай вобласцю. Гэта тут дружна жывуць праваслаўныя, каталікі, пратэстанты, татары, хаця каталік з праваслаўным жыве як чачэнец з рускім. Гэта тут *przedstawiciele handlowi* стукаюць у кожныя дзверы, быццам іегавісты, каб абмануць наш просты народ на дарагі рахунак за тэлефон ці гаршкі на крэдыт з высокім працэнтам. Гэта тут той выйграе выбары на правінцыі, хто найбольш выбаршчыкаў завязе на сваёй машыне на выбарчы ўчастак, а пры тым паставіць паўлітра пад вясковай крамай . Гэта мы прыдумалі вясковыя крамы — там бурліць сапраўднае правінцыйнае жыццё, якое намнога цікавей, чымсьці фейсбук, інстаграм ці pudelek.pl. Пад вясковай крамай клубяцца самыя свежыя навіны з малога і вялікага свету. Тут можна выпіць, але не раз і ў морду дастаць зусім дарэмна. Гэта тут нараджаецца новая аўтаномія Падляшша, забытая Атлантыда, краіна апошніх магікан, што горда завецца Падляшшам. Як кажуць, сто галоваў — сто розумаў, але варта памятаць, што ад тысячы гадоў мы аўтахтоны на сваёй зямлі і мы тут усё пражылі: вайну, голад, бежанства, жыццё і смерць, вяселле і пахаванне, з песняй на вуснах або са слязой у вачах. Памятайце, мы тут у сябе, мы спрадвеку на Падляшшы. Гэта Наша Падляшша!

**ПАДЛЯШСКІ *POWER DRINK***

Жыву ў горадзе, прэзідэнтам якога меў быць Кананові ч. Жыву ў краіне малаком і мёдам цякучай, якая горда завецца Падляшшам, таму што было і застаецца пад уладай ляхаў, значыць, палякаў, хаця праваслаўных пражывае тут 300 тысяч. Жыву ў краіне, якая з'яўляецца дзяржавай у дзяржаве, дзе па-суседску жывуць праваслаўныя і каталікі, палякі і беларусы. Жыву ў краіне, дзе суседка моліцца за суседку: «А каб яе пакруціла, а ты дугою скакала да мужа», а сусед суседу гатовы штыкетай даць у лоб за цікаўны позірк. Мо таму штораз часцей звычайныя падляшскія платы замяняюць жывыя платы туяў. Жыву ў краіне, дзе ў адной вёсцы якісьці дзядзька так па сабе захацеў быць царом, а іншы на хаце напісаў «Праваслаўе або смерць!». Дзесьці недалёка ад Гарадка б'е крыніца белага золата Падляшша — «Дух пушчы» — спрадвечны *power drink* нашых продкаў, які спрадвеку выраблююць Колік і Толік, адвечныя жыхары Падляшша.

— Ты мяне не вучы рабіць самагонку. Я гэта знаю з дзеда прадзеда. Самагоначка *glans tip top*.

А тут з'яўляюцца да іх неспадзяваныя госці на паліцэйскай аўтамашыне з Беластока.

— *Nie ruszać się! Ręce do góry!*

— Пан камендант, пан камендант, пачакайце!

— Маеце пяць мінут, каб закрыць свой інтарэс. Я даўно ведаў, што вы тут выпраўляеце...

— Пан камендант, пагаворым як людзі. Паспрабуйце... смаааката! — Толік совае каменданту бутэльку пад нос. У каменданта адразу з'явілася шчырая усмешка.

— Ты мне бутэльку не давай, а вунь гэтую бочку. Дачку замуж выдаю!

— Як так, пан камендант, то калі ласка, — Толік качае бочку самагонкі ў паліцэйскі фургон. — Толькі будзьце людзьмі, не закрывайце нам бізнесу!

— А хто вам бароніць? Можаце далей гнаць!

— Дзякуем, пан камендант! — хорам кажуць Толік і Колік

— Бывайце хлопцы! — махае рукой на развітанне камендант.

Калі камендант ад'ехаў, Колік пачынае:

— Ты, я чуў, што ягоная дачка негра пазнала ў Лондане.

— Хто гэта негр?

— Ну, чорны такі чалавек...

— Вочы чорны?

— Цэлае цела чорнае, разумееш, рукі, ногі чорныя...

— А той чорны?.. — пытае Колік

— Чорны халера ўвесь, да калена. Я бачыў на фільме.

— Мне не пра тое ідзе. Я хацеў запытаць, ці той чорны любіць самагонку?

— А хто яе не любіць! Нават сам прэзідэнт п'е яе!

— Ну, што ты! То хтось з Варшавы той наш...

— Так, наш. Як ты смачна спаў пад елкай, уяві сабе, пад'ехаў чорны лімузін, выйшла з яго трох мужыкоў у дарагіх чорных касцюмах, з чорнымі акулярамі, і сказалі, што добра заплацяць і каб я пад спецыяльны заказ...

— Казкі пляцеш...

— Не пляту. Іх лімузін быў на варшаўскіх нумарах, а літары чырвоныя на белым фоне. Разумееш, не абы хрэн такім лімузінам ездзіць. Гэта быў той жа сам.

— А чорт з ім. Варшавякі ведаюць, што добрае.Ты, а ў каменданта будзе вяселле?

— Афрыканскае. Сам бацюшка чытаў у нядзелю, што ён афрыканскага веравызнання.

— Ты, на вёсцы гаварылі, што тыя, разумееш, афрыканцы то за жонку даюць статак кароў.

— О ёб тваю маць! Я хацеў бы мець такога зяця! Пачакай, а на чорт каменданту статак кароў? Што ён з імі зробіць, хто іх у Беластоку пасвіць будзе, даіць?

— Ты не бойся. Ён іх прадасць і кватэру дачцэ і зяцю купіць. Гэта ж афрыканская парода, мо заапарку прадасць?

— У заапарк хай зяця аддае. Такая прыгожая дзяўчына за чорнага захацела. Мала то хлопцаў у Гарадку...

— Але, разумееш, па калена, значыць, добра дагадзіць можа.

— Ты мусіць напіўся брагі, а то ўсё пляцеш тое самае...

— А ты што, не напіўся б за здароўе дачкі каменданта? Ён жа ўзяў нашу самагонку на сваё вяселле. Гэта ж гонар!

— Пэўна ж, давай! Чорны не чорны, але будзе наш.

І абодва зацягнулі па чарачцы «Духа пушчы».

— А дзеці якія ў іх будуць?

— Мусіць рабыя...

**Я З ПРЫТУЛІЧ, ДЗЕ АДНА ХАТА І СЕМ ВУЛІЦ...**

Перабіраемся ў славутую на ўсё Падляшша вёску Прытулічы. Скажаце, у Прытулічы дзе сем вуліц а я скажу не — адна і доўгая вуліца, але найдаўжэйшая. У Прытулічах найбольшым і адзіным гаспадаром з'яўляецца Сідар Камар — паэт, містык, візіянер, фалькларыст, а пры тым гаспадар. У яго 300 гектараў зямлі і 200 гектараў лугоў. А ўсё абрабляе з ранку да ночы на сваім трактары «Джон Дзір». Калі едзе на трактары касіць траву, ён не размаўляе сам з сабою, але з ахінаючай яго казачна-містычнай прыродай. Вядзе ён такі вось паэтычны маналог:

*Лугі, лясы мае каханыя,*
*Як я за вамі тужыў*
*падчас з Вамі расстання.*
*Лясы мае родныя, сэрцу блізкія,*
*Тужыў я за вамі,*
*За зялёнымі лугамі,*
*За чарнавокімі казулямі,*
*Што аддаюць сваю красу,*
*Быццам нявінных гадоў вясну.*
*Я за табой тужу,*
*Свае слёзы раняю.*
*Божа, як я люблю красу,*
*У вясковую духмяную вясну,*
*Калі травы луг у кветкі апранае,*
*Калі хлопец дзеўку на сене кахае,*
*Люблю цябе, Падляшская зямля,*
*Уся твая ўва мне краса...*

Тут прыгажосць Сідаравай паэмы быццам прыгожая казка ўрываецца і пачынаецца горкая рэчаіснасць...

— Халера, зноў трактар заглух. Відаць, руская салярка. А сусед казаў, дызельнае паліва купляй на аўтазаправачнай станцыі «Орлен».

**ПАДЛЯШСКІ ВІЗІЯНЕР**

Паміж лясоў і балот Белавежскай пушчы жыве айцец Пафнуцій, нястомны прапаведнік веры, містык і візіянер, прадказальнік канца свету ў 2012 годзе. Факт, год 2012 даўно мінуў, а свет надалей існуе, але ж колькі ён навярнуў грэшнікаў на добрую дарогу, якія шчыра паверылі, што ў 2012 меў быць канец свету і адмянілі сваё грэшнае жыццё, сталі шчыра прытрымлівацца веры. Сёння бойцеся грэшнікі праклятыя, ідзе той, хто будзе вас ядлоўцам хрысціць, агнём пякельным ганяць... Аднак сёння айцец Пафнуцій асабліва ўсхваляваны як ніколі, таму што да яго прыехаў Фёдар Макацёр:

— І чаго ж ты сюды прыехаў?!

— Па жыццёвую параду, ойча.

— Грошы маеш?

— Маю ...

— Колькі?

— 20.

— Эх, мала, мала. Каб 100 злотых, то даў бы табе сваю кнігу.

— Пра што кніга?

— Пра маё жыццё, пра маё змаганне з грэшным народам. Фёдар, пра жыццёвыя табе парады. Эх Фёдар пралайдачыў ты з жонкай жыццё. Жыў бы са мною, быў бы панам, Фёдар. Тут прырода жывая, прастора багацця душы. Давай тых 20 і вымытвай. Ты мне патрэбны як скула на языку!

І так айцец Пафнуцій выдзер апошнія грошы ў Фёдара, які трымаў іх на аўтобус у родную Гайнаўку.

— Пехатой пойдзеш, пілігрымкай, дык розуму навучышся.

А Пафнуцій ізноў сярод зуброў белавежскай пушчы змагаецца з грахамі народу, які едзе ў яго пустэльню, хаця гэтых натоўпаў не відаць...

**УКРАІНСКІ ПРАРОК**

Заглядаем у старадаўні Бельск, дзе ў адным горадзе дружна і мірна жывуць беларусы, украінцы і палякі, а на мясцовым базары ў кожны чацвер можна пачуць спрадвечную мову падляшоў. Тут на рынку туалетную паперу прадае Сяргей Жальскі, учарашні беларус, а пазаўчарашні ўкраінец, а цяперашні белук, значыць *нацыянал мікс мэн*, падляшскі *mish.mash*. Жальскі раздае ўсім газеткі пра вайну, якая мае калісьці быць.

— Бэрыте війна буде Америка заатакавала Вікраїну а заўтра будзе Польшча!

Падыходзіць да яго глухаваты дзядзька:

— Шчо будэ?

— Вайна

— Да гумна? Папера ваша?

— Да пайшоў ты на хрэн!

Падыходзіць бабка худая, згорбленая, у акулярах быццам дно слоічка з-пад гарчыцы і кажа:

— Але, ён праўду кажа, што папера да гумна, а я дрэнна бачу, у літарах разабрацца не магу. Я старая, ужо ў польскіх буквах не разбіраюся. Мужык чым будзе ў срачы падціраццa...

**НАЦЫЯНАЛЬНАЕ РАДЫЁ**

У Беластоку, сталіцы Падляшша, падаемся да рэдакцыі Радыё Нацыя па вуліцы Альховай, 66, дзе нястомная журналістка Аля Піянюшкіна чытае самыя свежыя навіны, а яе сябры змагаюцца за вольную і незалежную Беларусь.

— У эфіры Радыё Нацыя. Падаем навіны з першай рукі. У Гродне абарваўся водапровод і жыхары Гродна носяць ваду вёдрамі проста з Нёмана. У Саколцы ехаў п'яны гаспадар і раз'ехаў трактарам пару дзікоў ды засталіся ад іх адны трыбухі. У Гайнаўцы куры дзяўбалі авёс і наехаў на іх «пэкаэс». А цяпер прагноз пагоды. У Беластоку снег і завіруха — 48 уначы, — 2 удзень.

У Бельску жара плюс 20, а пад стадолай галалёдзіца.У Гайнаўцы адліга і снег, плюс 40 удзень, мінус шэсцьдзясят уначы.

— Какую ты, Аля, чушь несёшь, — знерваваўся на яе Алесь Пруква, беларускі пісьменнік з Менска, а заадно журналіст радыё Нацыя.

— Гэта ж ты сам мне напісаў.

— Алечка, подожди, — зацягнуў сваім доўгім носам, — гарадоцкая самагонка 1999 года варэння. Аля, ты п'яная! Ідy да дырэктара!

— Папрабуй пайсці дык я скажу, хто на Новы год ксеракс пабіў варты тры тысячы злотых. Я скажу як пабіў. Як ты гуляў на каталіцкі Новы год. Сёння ж Гагатуха, наваг одні вечар, па-ні-ма-еш?

— У Вас в каждую субботу рагатуху празднуют. Эх, поляки...

Заглянуў праз адкрытыя дзверы ў кабінет начальніка журналістаў, які моцна спаў з адкінутай да заду галавой.

— Польский самогон из Грудка делает чудо, — бездапаможна ўздыхнуў беларускі журналіст Пруква.

**АМСАМБЛЬ «НЕПАЦЕШКІ» ЛЕПШЫ ЧЫМСЬЦІ «АРЭШКІ»**

Тым разам заглядаем у Нарву, дзе народны калектыў «Непацешкі» мае сваю рэпетыцыю ў сам раз перад фестывалем «Падляшская гасцёўня». Рэпетыцыю вядзе вядомы фалькларыст Пятро Калеснік, таксама не малады і не адну гасцёўню са старымі бабамі станцаваў. Цяпер Унія плаціць добрыя грошы, дык і хату дачцэ пабудаваў, і сабе, і сыну за гэтыя спевы. А старыя — слабы матэрыял на экспарт, але як то кажуць, грошы не смярдзяць.

— Бабы, з хлебам співайце, а то выеце быццам год не елі.

— Мы, старыя, сіл не маем, а маладыя не хочуць спяваць.

— Усё цягаю вас па фестывалях, а вы ніколі не выйгралі нічога.

Аднак, відаць, бабам адхацелася спяваць, таму Калеснік запрапанаваў нейкі допінг. Бабы згадзіліся і ў рух пайшла чарка за чаркай, вядома, самагонкі з гарадоцкага лесу. Бабы хорам заспявалі :

— Улезла баба на драбіну, паказала палавіну...

«Эх, беларускі фальклор не мае граніц і цяжка яго на цвярозы розум разабраць», — да такога вываду дайшоў Пятро Калеснік, фалькларыст з Падляшша.

■ Пенсійнае пасведчанне жонкі Емяльяна Казакевіча, Вольгі

■ Пасведчанні аб смерці

■ Унучка Казакевічаў Вольга. Сучасны здымак, зроблены ў Дзятлаве

8 ☞ працяг

## Сям'я Емяльяна Казакевіча

шая дачка Емяльяна Казакевіча, Марыя, выйграла па аблігацыі 25 тысяч рублёў. Гэта па тым часе былі вялікія грошы. За іх можна было купіць тры машыны „Победа". Казакевічы за гэтыя грошы пабудавалі дом.

Унучка Казакевічаў яшчэ распавядала пра тое, што бабуля пасля вайны была спекулянткай.

— Як спекулянткай? — пытаюся ў спадарыні Вольгі.

— Вось так. На той час гэта называлася спекуляцыяй. Бабуля Вольга ніколі нідзе не працавала, а гандлявала на рынку. А калі яе міліцыя лавіла, то зрабіць нічога не магла, бо ў яе было 9 дзяцей. Бабулю адпускалі. Яна вазіла трускалку, іншую агародніну і садавіну прадавець ажно ў Маскву, Ленінград, на Урал нават, а адтуль прывозіла ў Дзятлава запалкі, плашчы, фарбу, хлорку і іншыя рэчы, якіх тут пасля вайны не хапала, і прадавала ўсё. І за гэтыя грошы вялікая сям'я жыла. Вядома ж, працаваў і дзядуля, і старэйшыя дзеці.

Вольга Казакевіч расказала яшчэ, што дачка Казакевічаў Вера (а яе цётка Вера), калі жылі на Беласточчыне, сябравала з хлопцам з адной польскай банды. І ён таксама ёй распавёў па сакрэце, што калі на працягу месяца іх сям'я не пакіне Невадніцу-Наргілеўскую, то іх усіх расстраляюць. Вера хуценька расказала пра гэта тату і маме...

Пётр Казакевіч падчас гутаркі нагадаў, што ёсць такое слова настальгія. І бацькі, і мы, дзеці, заўсёды хацелі вярнуцца ў родныя мясціны. Хаця ў Беларусі атрымалі ўсе адукацыю, працавалі, выйшлі замуж і ажаніліся, але настальгія па радзіме прысутнічала і прысутнічае заўсёды.

Сям'я ў Казакевічаў, сапраўды, вялікая. Спадарыня Вольга сказала, што ў Емяльяна і Вольга Казакевічаў нарадзіліся 9 дзяцей, 22 унукі і 32 праўнукі. І апошняе. Емяльян Казакевіч вельмі любіў беларускую музыку. А паланэз Агінскага „Развітанне з радзімай" быў яго любімым музычным творам. Перад смерцю ён прасіў, што калі памрэ, то хавацьяго пад паланэз Агінскага. Сям'я Казакевічаў просьбу Емяльяна Емяльянавіча выканала.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

народны мемарыял

КУРАПАТЫ

# http://kuropaty.space

Гэтым красавіком беларускі правіцель і яго памагатыя атрымалі ў свой адрас новую порцыю праклёнаў. Прычына — непрыхаваны вандалізм у Курапатах. Нашчадкам сталінскіх вертухаяў як бяльмо на воку крыжы, што ўсталявалі ў тым лясным урочышчы сучаснікі ў памяць аб забітых чырвонай уладай нявінных людзях. Аляксандр Лукашэнка можа колькі заўгодна спрабаваць тлумачыць свае бязглуздыя і вар'яцкія дзеянні патрэбай нейкага добраўпарадкавання, але гэта ніяк не схавае яго нянавісць да сапраўды народнай памяці — той светлай памяці, якой яго, першага беларускага прэзідэнта, наўрад ці хто ўзгадае. І калі ён, як і ўсе мы, адыдзе ў нябыт, малаверагодна, што знікне ў інтэрнэце віртуальны мемарыял, які з'явіўся надоечы ў гонар Курапат.

Калі цікаўны карыстальнік інтэрнэту набярэ на сваім камп'ютары адрас **http://kuropaty.space**, то перад яго вачыма адкрыецца чорна-чырвонае выяўленне са словам „Курапаты", напісаныя вялікімі літарамі. Цікава, што ў першы момант усё, што там напісана, падаецца па-руску, але ўжо праз секунду мова інтэрфейса змяняецца на беларускую. Дарэчы, моў, на якіх можна пазнаёміцца са зместам сайта, некалькі дзесяткаў. У правым верхнім вугле пад сцяжкамі знаходзяцца сцяжкі пяці краін з адпаведнымі мовамі, а пад спасылкай „яшчэ мовы" змешчаны яшчэ пяцьдзясят чатыры сцяжкі.

„Народны мемарыял КУРАПАТЫ. Месца масавых расстрэлаў у 1937-1941 гадах. З 1937 па 1941 супрацоўнікі НКУС БССР расстрэльвалі рэпрэсаваных жыхароў Беларусі. Паводле ацэнак экспертаў у Курапатах пахавана ад 30 тысяч да 250 тысяч чалавек", — адзначаецца на галоўнай старонцы сайта. Там жа паведамляецца, што кожны дзень а 19.00 ва ўрочышчы праходзіць малітва за Беларусь, кожную нядзелю а 14.00 — Вялікі сход і малітва ў абарону Курапатаў, кожны дзень з 16.00 да 21.00 — Варта памяці.

Калі прагартаць старонку ніжэй, то можна даведацца, чаму, на думку распрацоўшчыкаў сайта, варта наведаць Курапаты. Таксама там падаюцца храналагічныя звесткі аб „адкрыцці" месца масавых бальшавіцкіх расстрэлаў.

На сайце змешчана мноства разнастайных фотаздымкаў і відэа, якія распавядаюць пра сучасны стан Курапатаў і пра першыя гады іх мемарыялізацыі. На відэа можна пабачыць таксама як экскаватар выцягвае з зямлі крыжы. „Улады Беларусі спрабуюць дэпалітызаваць і пазбавіць значэння месца пахавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій", — такое тлумачэнне прыводзіцца на сайце са спасылкай на апытаных „Нямецкай хваляй" экспертаў. Ёсць і адказы на пытанні колькі людзей расстралялі ў Курапатах, ці ёсць нейкая статыстыка па складзе рэпрэсаваных, хто расстрэльваў у Курапатах людзей, як следчыя даказалі, што расстрэлы праходзілі да вайны, каму належыць „расстрэльны лес"?

У самым нізе старонкі змешчаны два водгукі людзей, якія, па ўсім відаць, адны з тых, хто ўсімі сіламі рупіцца аб захаванні памяці пра бязвінна забітых. „Я лічу, што кожны павінен наведаць Курапаты. Гэта наша гісторыя, гэта наша памяць, гэта даніна павагі нашым ні ў чым невінаватым, расстраляным суайчыннікам. Гэта месца нашай волі", — кажа Таццяна Суднік. „Курапаты гэта плач і слёзы Беларусі і беларускага народа. Гэта сімвал свабоды і незалежнасці", — сцвярджае Павел Кузаўка.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

## 70 гадоў з дня нараджэння

# Віктара Дарашкевіча

Беларускі літаратуразнавец і перакладчык Віктар Дарашкевіч нарадзіўся 9 чэрвеня 1949 г. у вёсцы Цёмнае Балота (цяпер Сасновы Бор, Шчучынскі раён). У 1956 г. вучыўся ў пачатковай школе ў Кірпічоўшчыне, потым была сямігодка ў Шчанцы, а 9-10-ыя класы скончыў у сярэдняй школе ў Астрыне.

Пазней Дарашкевіч скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 1971 г. з адзнакай. Тры гады вывучаў класічную філалогію ў аспірантуры Віленскага ўніверсітэта. З 1974 г. працаваў у Інстытуце літаратуры АН Беларусі. У 1977 г. у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы абараніў дысертацыю на спаборніка навуковай ступені кандыдата філалагічных навук (спецыяльнасць — літаратура народаў краін замежжа). Даследаваў гісторыю, старажытную беларускую літаратуру, лацінамоўную айчынную літаратуру 15-18 стагоддзяў.

Дарашкевіч склаў першасны праект так званай „скарынаўскай праграмы", да выканання якой пазней далучыліся многія навукоўцы. Выявіў 17 лацінамоўных дакументаў, што мелі дачыненне да жыцця ўсходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыны, і выдаў іх у супрацы з Алесем Жлуткам і Лідзіяй Ляхавай. Выхад з друку ў 1979 г. манаграфіі Дарашкевіча „Новалацінская паэзія Беларусі і Літвы: першая палова XVI стагоддзя" стаў значнай падзеяй у навуковым жыцці Беларусі. У працы значная ўвага надаецца характарыстыцы творчай дзейнасці Скарыны, паказу яго ролі ў развіцці ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Дарашкевіч аргументавана выказаў думку, што Ян Вісліцкі аўтар паэмы „Пруская вайна" (1516 г.) — выхадзец з Беларусі: месцам яго нараджэння даследчык лічыў мястэчка з адпаведнай назвай паміж Клецкам і Пінскам. І такіх адкрыццяў было шмат.

У трохмоўным выданні „Песні пра зубра" Міколы Гусоўскага навуковец змясціў праграмны артыкул, у якім лацінская пісьменнасць і лацінамоўная літаратура ў гісторыі Беларусі разглядаліся як арганічная частка нацыянальнай культуры. Дарашкевічам была зроблена вялікая праца па падрыхтоўцы да друку самой „Песні пра зубра" і каментарыяў да яе. Кніга выйшла ў Італіі накладам 1000 асобнікаў. Над ёй працавалі два гады. Дарашкевіч быў не толькі выдатны мовазнавец, гісторык-даследчык, але меў і талент паэта, што пацвярджае пераклад „Слова аб палку Ігаравым". Дарашкевіч быў навуковым кансультантам энцыклапедычнага даведніка „Францыск Скарына і яго час" (1988), аўтарам некалькіх артыкулаў для гэтага даведніка. Актыўна публікаваўся ў англамоўных выданнях ЮНЕСКА, Польшчы, Чэхіі і іншых краін.

З 1982 г. Віктар Дарашкевіч зноў працаваў у Інстытуце літаратуры АН Беларусі. Увесь свой час аддаваў вывучэнню спадчыны Скарыны і Гусоўскага. Вядомы навуковец з добрымі перспектывамі, гонар сям'і і землякоў, аўтар многіх работ і артыкулаў, прызнаных і ацэненых навуковым светам. Але лёс рэзка паламаў жыццё. Прыйшла страшная невылечная хвароба. Ён змагаўся, як мог. Працаваў цэлы час, нават тады, калі прыступы сталі ўжо частымі і невыноснымі. У шпіталь прасіў прывозіць кнігі, пісаў артыкулы і дасылаў іх у Нацыянальную акадэмію навук. Апошнія гады жыцця Дарашкевіч правёў у роднай вёсцы ў доме старэйшай сястры Марыі, якая заўсёды была побач. Хвароба не адпускала, рабілася ўсё горш...

Смерць навукоўца была трагічнай, ён загінуў 12 кастрычніка 2003 года разам з яшчэ 30 чалавекамі ў час пажару ў дыспансеры-інтэрнаце ў Казлоўшчыне. Пахаваны Віктар Дарашкевіч згодна з яго жаданнем на могілках на ўскрайку сваёй роднай вёскі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Не заклеймаваць годнасці

Справай фальшавання дакументаў і вымантачвання неналежнай запазычанасці, у чым мяне абвінавачвае Оранж-Энергія («Не мела баба клопату» — «Ніва» № 21 ад 26 траўня), занялася пракуратура і павятовы заступнік спажыўца ў Гайнаўцы. Гэты ўжо 28 траўня паслаў службовае пісьмо ў адрас Оранж Польска С.А. з просьбай высветліць справу, а 30 траўня следчыя гайнаўскай паліцыі мяне дапыталі. Я, зразумела, прад'явіў сабраныя дакументы, таксама паказаў доказы фальшавання рахункаў у маім камп'ютары. Паколькі расследаванне пачынаецца, следчыя прасілі дасылаць ім новыя дакументы, якія тычацца справы. 25 траўня, будучы ў шпіталі, я змясціў на фейсбуку адкрытае пісьмо старшыні праўлення Оранж Польска С.А. у Скерневіцах, у якім прад'явіў доказы махлярства з боку Оранж-Энергія. Гэта ўсё раблю дзеля абароны сваёй годнасці, гонару і добрага імені як грамадзяніна, шматгадовага кліента Оранж Польска С.А., таксама шматгадовага карэспандэнта «Нівы». Не дазволю заклеймаваць сваю годнасць!

**Уладзімір СІДАРУК**







**Быць нам Разам! Звяртаемся да Вас з просьбай падтрымаць фінансава фестываль, які ад самага яго пачатку арганізуюць маладыя людзі з Беларускага аб'яднання студэнтаў. У гэтым годзе будзе ўжо 30 юбілейны Фестываль музыкі маладой Беларусі БАСовішча 2019, які пройдзе 19-20 ліпеня ў Гарадку каля Беластока. Кошты з году ў год растуць, а хочацца каб юбілейнае БАСовішча было незабыўным і якасным.**

І Вы можаце дадаць сваю цаглінку да арганізацыі фестывалю прымаючы ўдзел у адмысловым зборы **odpalprojekt.pl/p/XXX-BASowiszcza-2019**

Дзякуем за кожную дапамогу! Партнёрамі БАСовішча з'яўляюцца: Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Рэспублікі Польшча, Падляшская маршалкоўская ўправа, Беларускае Радыё Рацыя, а таксама — маем такое спадзяванне — і Вы.

**Дарыюш ЖУКОЎСКІ**

* * *

Дом Маці Маёй,
Ён такі звычайны,
Што нават не сніцца мне ў снах,
Хаця нібыта гэта добры знак,
Калі прысніцца нам яго дах,
Гэты сімвал ставіцца да найбольшых каштоўнасцей,
Вызнаваных чалавекам.
Моцны, трывалы дах з'яўляецца прыкметай моцнага
Характару і паслядоўнасці ў захаванні маральных нормаў.
Трывалы дах сімвалізуе бяспеку і эмацыйную стабільнасць,
Ёсць у ім заўжды вада для піцця,
Мыцця рук і твару,
І рэцэпт на хлеб з цукрам,
Просты стол і некалькі крэслаў,
За якім сядзіць яе штодзённая вера.
«У што я магла б паверыць,
Калі б не ў чыстыя рукі свайго дзіцяці?»
І яго ніколі не зачыняюць на ключ,
Каб я мог прыйсці і сесці побач.

АБ-БА

Аб'яднанне АБ-БА запрашае на
**Падвядзенне вынікаў артыстычнай працы дзяцей і моладзі ў навучальным годзе 2018/2019**

**10.06.2019**
**16.30 Беластоцкі лялечны тэатр**

**У праграме:**

Спектаклі ў выкананні ўдзельнікаў Тэатральнага гуртка **«Гульня ў тэатр»**

***«У дзяржаве мурашынай», «Чорт і баба»***
**сцэнарый і рэжысура** *Янина Троц*

***«Пінокіё»***
**сцэнарый і рэжысура** *Бернард Мацей Баня,*
**пераклад** *Аліна Ваўранюк*

***Канцэрт гурта «Баламуткі»***
**інструктар** *Кірыл Лепай*

***Танцавальныя нумары ў выкананні Беларускага дзіцячага ансамбля танца «Падляшскі вянок»***
**інструктар і харэограф** *Аксана Прус*

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

**1.** парны орган зроку = 11 _ 10 _ 30 _ 31 _;
**2.** асабовы займеннік мужчынскага роду = 25 _ 16 _;
**3.** жоўта-зялёная вадкасць, якую выдзяляе печань = 26 _ 2 _ 23 _ 20 _ 21 _;
**4.** шахматная фігура са... стайні = 27 _ 28 _ 29 _ 37 _;
**5.** сусед радзіміча і дрыгавіча = 32 _ 9 _ 35 _ 18 _ 19 _ 13 _;
**6.** тоўсты сноп саломы = 14 _ 15 _ 3 _ 4 _;
**7.** сталіца бразільскага штата Мату-Гросу = 1 _ 33 _ 8 _ 34 _ 22 _;
**8.** костка твару, у якой умацаваны зубы = 24 _ 5 _ 6 _ 7 _ 17 _ 36 _ 12 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | 16 | 17 | | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | 22 | | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |
| | | | | | 34 | 35 | 36 | 37 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 19 нумара**
Ас, дзевер, Ірад, Кіеў, лаўка, лой, нос, пух, сто, хітон, чай.

Рашэнне: **Хто салоўкі не слухаў, той і дзеркачовай песні рад**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

## 09.06 — 15.06

**(22.03. — 20.04.)** Пераканаеш да сябе апанентаў. Ад 9.06. распешчвае цябе Венера. З 11.06. (да 17.06.) чакае цябе гарачы, жарсны раман. З 1.06. дай партнёру крыху свабоды. На працы, пакуль тваё павышэнне не падпісана, усё можа здарыцца. Будзеш ваяўніча настроены і можаш выпадкова выклікаць сусветную сварку. На працы зайздроснікаў хоць адбаўляй.

**(21.04. — 21.05.)** На працы падшколішся і падвучыш іншых. Фінансава выйдзеш на простую, пагасіш даўгі, без страху глянеш у будучыню. Паправа адносін з хатнімі, з бацькамі. Калі што схочаш прадаць, здзелка будзе ўдалай. Хочаш мець больш — давай штосьці ад сябе. Варта схадзіць да акуліста.

**(22.05. — 22.06.)** 8-12.06 шэф папракне цябе ў памылках і занядбаннях. Пасля 9.06. скончацца праблемы ў пары. 9-11.06. крытычна глядзі на ўсялякія нагоды. Дабяры від спорту да сваіх магчымасцей. Пад канец тыдня пачнеш распускацца, траціць пільнасць — зважай на памылкі. Народжаныя ў II дэкадзе слабейшыя. Не ежце абы-дзе і абы-чаго, пільнуйцеся ад заражэнняў.

**(23.06.—23.07.)** Не спяшайся з матрыманіяльнай прапановай. Кожны клопат скампенсуе невялічкі поспех. З 11.06. (да 17.06.) можаш натрапіць на свой шлях жыцця. З 11.06. (да 17.06.) можаш трапіць на перашкоды, якіх не перайсці. З 11.06. (аж да 23.06.) могуць быць рызыкоўнымі для цябе хірургічныя аперацыі.

**(24.07. — 23.08.)** З 11.06. (да 16.06.) будзеш прымушаны прыняць чыесьці правілы гульні. Вернешся да здароўя і поўнай раўнавагі. Сілай не ашчаслівай людзей. Старайся не трапляць у крайнія эмоцыі. На працы да 11.06. не нарабі памылак; разлічвай на саюзнікаў. 8-12.06. будзеш падатлівы на штучкі прадаўцоў. Леў з I дэкады — слухай шэфа, каб не пераканацца, як жывецца чалавеку без грошай і штату.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш марудная і зайздросная ў пары. Для некаторых канчыцца гэта шлюбам, для іншых расстаннем. Пазнаёмішся з кімсьці вельмі цікавым. 9-11.06. можаш не адрозніць спраў важных ад малаістотных. З 11.06 (да 17.06.) лепш палічы да дзесяці, пакуль скажаш. 8-12.06. час спрыяе засноўванню суполак, рабі інтарэсы толькі з тымі, каго добра ведаеш. Не шкадуй часу на шпацыры і ровар, тым больш што цяпер можаш паправіцца.

**(24.09. — 23.10.)** Незычлівыя асобы з твайго атачэння схочуць падважыць твае кампетэнцыі. Не ацані памылкова або не інтэрпрэтуй кепска чыіхсьці слоў ад 15.06. Задзівіш усіх сваёй задзірлівасцю, бадзёрасцю і непаслухмянасцю. Будзеш надта патрабавальны ў адносінах да іншых. Можаш разлічваць на падтрымку старэйшых, вопытных асоб. Лепш цяпер не выбірайся ў доўгае падарожжа.

**(24.10. — 22.11.)** 9-15.06. даведаешся, для каго ты вельмі важны. 11-15.06. будзеш рассеяны і забудзеш аб чымсьці важным. Павышэнне, але і больш работы. Венера не раіць табе эксперыментаваць цяпер з красою. Але можаш змяніць адценне колеру валасоў, акуляры.

**(23.11. — 22.12.)** 11-15.06. зробіш з чымсьці ці кімсьці парадак. 09-12.06. канфлікт на працы можа табе моцна зашкодзіць. 08-12.06. твая патрэба дамінацыі можа стаць падставай канфліктаў у сям'і. Народжаным у I дэкадзе цяжка будзе засяродзіцца на працы. Слухай доктара, бо ў палове месяца можаш апынуцца на вострым дзяжурстве!

**(23.12. — 20.01.)** На ўсё будзеш рэагаваць вельмі эмацыйна, што не заўсёды добра. Ідзе каханне. Едучы ў транспарце, не глядзі толькі на краявіды, а разглядайся сярод пасажыраў, выйдзі з машыны, можаш сустрэць каханне проста на дарозе. Асабліва горача з 11.06. (да 17.06.) З рызыкай заснавання ўласнай фірмы змерайся з 11.06. (да 17.06.). З 11.06. (да 17.06.) можаш быць злосны і сфруставаны.

**(21.01. — 19.02.)** Лёгка будзеш рассейвацца мыліцца, правярай разлікі, папрасі дапамогу. Справішся, і будзеш задаволены. Інтрыгі канкурэнцыі канчацца пшыкам. З 11.06. (да 17.06.) можаш апынуцца ў сітуацыі, з якой не будзе добрага выхаду. Калі маеш уласны бізнес, развівай яго ў інтэрнэце. З рахункамі выйдзеш на плюс, атрымаеш узнагароду. З 15.06. (да 17.06.) пануры настрой; не перавялічвай драбязу. Шпацыруй. Парабі аналізы крыві.

**(20.02. — 21.03.)** 8-12.06. можаш выклікаць добрае ўражанне на шэфе і вялікі крок да павышэння. 9-11.06. некаторыя справы, у якія ўключышся, могуць канчыцца правалам. Шанц на свае справы глянуць з адлегласці. На працы адрабляй недаробленае, правярай дакументы, дапамажы супрацоўнікам. Не стань ахвярай чыёйсьці злосці і зайздрасці з 15.06 (да 17.06.). З 15.06 (да 17.06.) трэба будзе выдаць трохі грошай з-за якойсьці аварыі. Варта табе ўзяцца за змаганне са сваім кепскімі звычкамі і слабасцямі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7.00 – 18.00.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# З Міжземнага мора


Крэпасць у Ларнацы

З ларнакскага аэрадрома ў сам цэнтр Ларнакі пяць кіламетраў па прамой лініі, а па асфальце каля васьмі. Дарога маляўніча пралягае сярод вадаёмаў — з аднаго боку Міжземнае мора, з другога салёныя азёры, якіх там чатыры. У даўні час, да тысячнага года да нашай эры, быў там марскі заліў, які з ходам часу аддзяліўся ад мора. Яшчэ каля 1700 года да н.э. быў там марскі порт, які, у выніку аддзялення заліва ад мора, прыйшоў у заняпад. Раскопкі паказваюць, што быў гэта бадай першы марскі порт Кіпра, які іграў важную ролю ў абмене між старажытнымі цывілізацыямі. Адным з важнейшых вырабаў старажытнага Кіпра быў пурпур, які здабывалі з малюскавых ракавін. Таксама важная была соль, якую з салёных азёр здабывалі з дагістарычнага часу да 1986 года.

Салёныя азёры Ларнакі з'яўляюцца таксама важным пунктам птушыных міграцый. Асабліва ў зімовы час туды прылятаюць фламінгі, жураўлі, чайкі; мяркуецца, што спыняюцца там дзясяткі тысяч пералётных птушак звыш васьмідзесяці відаў, каб пасілкавацца жывучымі ў азёрах крэветкамі. У летні час азёры высыхаюць...

Паводле легенды, святы Лазар, калі прыбыў на Кіпр, папрасіў у аднае жанчыны вады, яна адмовіла, тлумачачы, што яе вінаграднікі пасохлі. Тады святы кінуў праклён, каб яе вінаграднікі былі заўсёды сухія, а возера заўсёды салёнае. Вучоныя тлумачаць засоленасць азёр пранікannем марской вады праз порыстую глебу, якая аддзяляе азёры ад мора.

На заходняй ускраіне найбольшага з азёр, недалёка аэрадрома, знаходзіцца адзін з важнейшых гістарычных аб'ектаў Ларнакі — гэта сакральны комплекс Хала Султан. Быў ён узведзены на месцы, дзе абарвалася жыццё Ум Харам. Кім была Ум Харам, складана даведацца, бо розныя крыніцы па-рознаму вызначаюць яе сваяцтва з Прарокам Магаметам; магчыма, што была яна яго мамкай, а магчыма, што цёткай. Паводле легенды, Прарок часта наведваў Ум Харам. Аднойчы здрамнуўся ён і абудзіўся са смехам. Калі жанчына спытала яго, што яго развесяліла, Прарок адказаў, што ў сне пабачыў сваю кампанію плаваючую па моры быццам каралі. Ум Харам захацела таксама падацца ў марское падарожжа, вельмі экзатычнае жыхарам пустыннай Аравіі. Яна вельмі ўзрадавалася і прасіла Прарока, каб ён памаліўся за яе ўдзел у такой прыгодзе. Прарок памаліўся і зноў заснуў, зноў прабудзіўся са смехам і паведаміў захопленую падарожжам жанчыну, што выплыве яна ў першую чаргу...

Арабскія ўладары Сірыі заснавалі ў Міжземным моры марскі флот і ў 648 годзе, ужо пасля смерці Прарока, той флот адправіўся на Кіпр; камандаваў флотам муж Ум Харам. Забралася з ім і ягоная жонка, якой тады было ўжо за восемдзесят. Не быў гэта мірны візіт, быў гэта небяспечны баявы візіт. І ўжо на сушы, побач салёнага возера, упала яна з перапалоханага асла і памерла; была яна пахавана на месцы сваёй смерці. Магіла была забыта, аднак у XVIII стагоддзі адзін з мусульманскіх аскетаў устанавіў яе месца. У 1760 годзе, у час турэцкага панавання, на гэтым месцы быў узведзены маўзалей, а ў 1816 годзе была пабудавана мячэць. Хала Султан лічыцца чацвёртым па важнасці месцам мусульманскага культу, пасля Меккі, Медыны і Іерусаліма. Грабніца знаходзіцца пад трылітонам; пад спачываючым на двух вертыкальных глыбах-мегалітах метэарытам, які паводле легенды прынеслі сюды анёлы з Сіная. Пасля ўстанаўлення мемарыяла турэцкія ваенныя караблі, якія праплывалі побач Ларнакі, аддавалі салют у гонар святога месца. Хала Султан была мэтай масавых мусульманскіх паломніцтваў, да 1974 года, калі ў выніку турэцкай інвазіі на Кіпр адбыліся этнічныя чысткі па абодвух баках дэмаркацыйнай лініі. Пасля гэтага комплекс стаў музеем. З 2004 года, калі стала лягчэй перасякаць раздзялячую Кіпр граніцу, комплекс Хала Султан зноў сталі наведваць вернікі. Двойчы ў год, у Курбан-байрам і ў дзень завяршэння Рамадана адбываюцца там набажэнствы. Кіпрскія мусульмане хадайнічаюць зараз за тое, каб вярнуць статус аб'екта з музея ў санктуарый...


Мячэць Кебір


Мячэць Тузла

А мне наведаць гэты комплекс не ўдалося, хаця быў ужо каля двух кіламетраў ад яго. Папросту забраў я з сабою не надта абачліва такі абутак, які хутка пакінуў свой адбітак на маёй стапе і я, замест прыстойна хадзіць па далёкіх тратуарах, пакутліва чыкільгаў па іх; бывае. Ды і асаблівасцей салёнага возера таксама не пабачыў, хаця быў на яго беразе. Быў сама пачатак мая і не было там ні пералётных птушак, якія ўжо да таго часу ўспелі загнездавацца ў месцах сваіх „аркадый", як вугры ў Саргасавым моры. А само возера, якога сярэдняя глыбіня сягае пад метр, не ўспела высахнуць, каб паказаць свае сольныя залежы.

Мячэцей на Кіпры шмат, у тым ліку і некалькі ў Ларнацы. У самім цэнтры горада, які не большы за нашы Сувалкі ці Ломжу, знаходзяцца два. Мячэць Загуры была ўзведзена ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Зараз яна запушчана, дах яе мінарэта абваліўся ў мінулым стагоддзі; магчыма, што пасля 1974 года. Недалёкая мячэць Кебір з'яўляецца бадай найстарэйшай на Кіпры. Была яна ўзведзена на месцы каталіцкага касцёла св. Кацярыны з XIII стагоддзя. Гэта бадай адзіная мячэць у Ларнацы, дзе адбываюцца набажэнствы. Бо ж крыху мусульман у горадзе ёсць; мяркую гэта па апранутых па-мусульманску жанчынах, якіх можна спаткаць больш-менш так часта, як і ў Беластоку. Ну, ёсць у Ларнацы і арабская сталоўка, аднак сталаванне там крыху даражэйшае чым у іншых сілкавальнях, бо ўстанова прапануе наведвальнікам *belly-dance* — танец жывата...

Крыху далей ад цэнтра горада, паблізу рэзідэнцыі тамашняга праваслаўнага мітрапаліта, знаходзіцца мячэць Тузла. У VI стагоддзі была там царква св. Юрыя, якая пасля захопу Кіпра крыжаносцамі была заменена ў касцёл Св. Крыжа, а пасля ўстанаўлення турэцкага панавання была перабудавана ў мячэць. Некаторыя даведнікі згадваюць, што ўсярэдзіне захаваліся рэшткі візантыйскіх фрэсак; на жаль, пабачыць гэта немагчыма, бо аб'ект зараз закрыты і запушчаны. Варта згадаць, што турэцкая назва *Тузла* абазначае салёнае балота; і так туркі спачатку называлі Ларнаку. Крыжаносцы таксама называлі горад сольным — *Salinas*, а старажытныя егіпцяне *Аласіяй* — горадам солі...

Недалёка мячэці Кебір, сама над морам, знаходзіцца ларнакская крэпасць. Мяркуецца, што была яна збудавана ў візантыйскі перыяд. У XIV стагоддзі крэпасць разбудаваў кіпрскі кароль з крыжаносцаў Якаў І дзеля абароны перад генуэнцамі, якія, валодаючы портам у Фамагусце, хацелі захапіць цэлы Кіпр. Туркі, авалодаўшы Кіпрам, таксама ўзмацнілі ларнакскую крэпасць, аднак з ходам часу яна прыйшла ў заняпад. Англічане, якія запанавалі там у XIX стагоддзі, зладзілі ў крэпасці турму і месца пакаранняў з шыбеніцамі. Уладары незалежнага Кіпра таксама нейкі час трымалі там вязняў. Зараз у былой крэпасці гістарычны музей.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 23